# ЦАРКОЎНЫ ПАСЛАНЕЦ

**ПАВЕДАМЛЕНЬНІ ПАРАХВІЯЛЬНАЕ РАДЫ**

**БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА**

**КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА**

**CHURCH MESSENGER, P.O. BOX 5982, SOMERSET, N.J. 08875-5982**

**ГОД 20/26** **КАЛЯДЫ 1998** **2/46/56**


## КАЛЯДНЯЕ ВІТАНЬНЕ ЯГО МІЛАСЬЦІ ІЗЯСЛАВА БОЖАЙ ЛАСКАЙ МІТРАПАЛІТА ПЕРШАГЕРАРХА БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

ХРЫСТОС НАРАДЗІЎСЯ, СЛАЎЦЕ!

З Хрыстовым Нараджэньнем вітаю Вас Годнае Чэсьці Духавенства й Любыя Вернікі Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, ды ўсе, дзе-б Вы ня былі Праваслаўныя Беларусы ў духоўным і сьвецкім стане, што да свае роднае Сьвятое Царквы імкняцеся, а яшчэ доступу да Яе ня маеце.

Мае Любыя! Блізка дзьве тысячы год назад людзкое жыцьцё было гаротнае й небясьпечнае, бо амаль усе народы ведамага тады сьвету гібелі пад лютым займом вялізнае й бязьлітаснае Рымскае імпэрыі.

Цярпеў пад гэтым займом і жыдоўскі народ, але ня жыў безнадзейна, бо вера ў аднаго Ўсемагутнага Бога ўмацоўвала ягоны дух, а перакazаныя праз пракоаў Божыя абяцаньні давалі пэўнасьць на зьмену долі ў будучыні на лепшую.

Паправу долі гэты народ, нажаль, разумеў толькі як перамогу й помсту над ворагамі ды адбудову ягонае дзяржавы.



Усё гэта жыдоўскаму народу за тое, што ён, быццам, быў выбраны Богам, меў зрабіць пасланы зь неба павадыр, або, па іхнаму, мэсыя.

Уяўляючы мэсыю, як магутнага й няпераможнага ваяводу, жыдоўскі народ ня прыслухоўваўся да прарочых словаў, што мэсыя прынясе ня збройную перавагу, а духовае збаўленьне, ды, замест каб паправіць сваё заганнае жыцьцё, чакаў мэсыявага прыйсьця ў сьвецкай славе й пышнасьці.

Таму, калі дзеля збаўленьня людзкога роду на зямлю зыйшоў і ў беднасьці дзіцяткам з Найчыстае Дзеўны нарадзіўся Божы Сын Ісус Хрыстос, жыдоўскі народ Яго за мэсыю ня вызнаў.

Збаўцовую Навуку, аднак, пачулі й узялі да сэрца іншыя плямёны й гэткім чынам увайшлі ў вялікую сям'ю выбраных Богам народаў - хрысьціянаў.

Увайшоў у гэтую дагодную Богу сям'ю праз ягоны хрост у Праваслаўную Веру звыш тысячы год назад і Беларускі Народ.

Жыўлены й умацоўваны гэтай Верай наш Народ вякамі йшоў Божым шляхам, ствараючы вялікія духовыя багацьці ды ахоўваючы іх сьпярша ў межах раньніх княстваў, а пазьней свае магутнае дзяржавы Вялікага Княства Літоўскага.

Пасьля стагодзьдзяў незалежнага дзяржаўнага існаваньня знайшліся, нажаль, вонкавыя й нутраныя сілы, што адабралі ў нашага Народу спачат-ку Праваслаўную Веру, а за ёй і свабоду.

Пазьней уладу над ім узялі адкрытыя слугі цемры ды адпалохалі ад усялякае веры ў Бога, або ў нешта вышэйшае за патрэбы чэрава.

Сёньня Ён жыве гаротным і небясьпечным жыцьцём у атрутным абсягу засталага па савецкай імпэрыі гнільля, ды, замест навукі як ісьці да лепшае будучыні, чуе адно зманы хвальшывых прапаведнікаў варочацца ў жахлівую мінуласьць.

І, як некалі жыды, наш Народ пачынае верыць, што ратунак з галечы й крыўды дасьць яму прысланы, хоць ня зь неба, а ад суседзяў павадыр, або дыктатар.

На біяду, узноў-жа як даўней жыды, ён ня бачыць, што збаўленьне ад ягонае нядолі не на сілу сьвецкім уладарам, а можа прыйсьці толькі з Божае ласкі, на якую трэба заслужыць папраўаю жыцьця.

Мае Любыя! У сьвятле праўды, што яе весьціць Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, Вы пабачылі Мэту, дзеля якое зыйшоў на зямлю й навучаў людзей годна жыць наш Збавец Ісус Хрыстос.

Гэтая Мэта ня ў жыцьці паводле загадаў памыльных людзей, што часова валодаюць намі, а ў послуху звышнім наказам любіць Бога больш за ўсё ды кожнага бліжняга, як самога сябе.

Ідзеце-ж, пачаўшы йзь Сьвятога Дня Хрыстовага Нараджэньня, як Ягоныя вучні да свайго Народу ды навучайце гэты Народ, пакланяцца Богу, а не часовым уладарам, любіць Край і мову, ды цаніць права на свабоду, якімі Ён нас абдарыў.

Ідзеце й наказвайце адбудоўваць сваю родную Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, Якая не вядзе ў няволю, а настаўляе хваліць Бога той мовай, якую Ён нам даў і дзякаваць Яму за ўсе Ягоныя багатыя дары, ды памнажаць іх.

Няхай-жа за гэты Ваш дар працы на Ягонай ніве народжаны з Найчыстае Дзеўны наш Збавец сьцеражэ Вас і прыяе Вам цяпер, ды ўвесь час.

*+ Мітрапаліт Ізяслаў*
Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

# ДУМКІ ДА СЬВЯТА Й НА СЬВЯТА

З настаньнем Піліпаўкі ў душы амаль кожнага з нас прачынаецца ды дзень за днём мацнее ўмалку яшчэ прывітае там прыемнае перадкалядняе хваляваньне.

Гэты ўзьняты настрой жывіцца ўспамінамі зь дзіцячых і маладых год, калі мы зь сям'ёю шчыра маліліся ў царкве й удома, ды паводле прадзядніх звычаяў адзначалі Божае Нараджэньне ў хатнім коле, або й з гасьмі.

Вялічэзныя зьмены ў сьвеце ды зьінчаныя імі нашыя жыцьці, нажаль, ня прыяюць захаваньню багацьця й прыгаства даўніх сьвяткавальных звычаяў, а патрэба працы на пражытны заработак прыглушае пачуцьцё сьвятняе ўрачыстасьці.

Гэтак зьбяднелыя нямала хто з нас, усё-ж, прабуе ўратаваць хоць крыху з роднае спадчыны ды дапоўніўшы яе звычаямі асяродзьдзя, у якім знаходзімся, здаволіць прагу сьвяточнае ўрачыстасьці.

Гэтак, замест жытніх снапкоў на покуце, у нашых хатах красуюць хараша прыбраныя ялінкі, супраць якіх нельга пярэчыць, але, каб да іх вярнуліся й нашыя снапкі, было-б яшчэ гажэй

Вось, каб толькі хто нас гэнымі снапкамі забясьпечыў, а за адно й сена прывёз пасьлаць на стол у Сьвяты Вечар!

Згадаўшы стол, трэба сказаць, што немалой часткай сьвятняе прыемнасьці былі й стравы, якімі мы ласаваліся на Куцьцю й на Коляды, а як варыць іх ня ўсе гаспадыні памятаюць, дык, ці ня добра было-б выдаць кніжыцу з рэцэптамі ежы на ўсе сьвяты?

Ды сёньня ня ўсе й гаспадыні маюць час, каб гатаваць сьвяточныя стравы, а таму, ці ня варта было-б царкоўным сястрыцтвам, грамадзкім арганізацыям, або й каму іншаму зайняцца падрыхтоўкай гэткае ежы на продаж перад сьвятамі?

А для адзінотных, або сем'яў, што ўдома сьвяточнага стала ня ставяць, ці ня гожа было-б ладзіць супольныя пачастункі на Куцьцю, вялікодныя разговіны, а мо й на Дзяды?

Сьвята ў беларускай грамадзе, аднак, ня можа абыйсьціся бязь песьні й тут у нас адчуваецца нястача, бо вялікая частка калядняе й вялікоднае песеннае спадчыны нашых дзядоў не захавалася, а новае творчасьці ня відаць і ня чуваць.

Тымчасам у іншых народаў нястача народных калядак і вялікодных песьняў даўно запоўненая творамі нат ведамых паэтаў і музыкаў.

Больш таго, заходнія хрысьціянскія народы маюць цэлыя галіны паэтычнае й музычнае творчасьці прысьвячанае выяву рэлігійных думак і пачуцьцяў.

У Амэрыцы, напрыклад, пабожная песьня гэта нятолькі паэтычна-музычнае мастацтва, але й мільярдна прыбытковы бізнэс.

Дык, ці не пара была-б і нашым паэтам, ды музыкам узбагаціць родную культуру нятолькі калядным і вялікоднымі песьнямі, але й цэлай ядранай галінай паэтычна-музычнае творчасьці, імя якой - пабожная песьня?

Пабожная песьня, аднак, не павінна йснаваць сама па сабе, а займець мейсца й у нашых цэрквах, каб побач з адправамі й навукай у роднай мове ўзгадоўваць беларускіх праваслаўных хрысьціянаў, ды ўмацоўваць іхную веру.

Маглі-б быць і сьпевакі, або іхныя гурты, што выконвалі-б пабожныя песьні й распаўсюджвалі-б, ды папулярызавалі-б іхны рэпэртуар на касэтах і дысках.

Але сьвята не абмяжваецца аднымі малітвамі, песьнямі й стравамі - тон яму, у немалой меры, задаюць прывітаньні, якімі мы абменьваемся йз сваякамі ды сябрамі й знаёмымі, бо няўклюднае прывітаньне ня прыяе прыемнасьці лістоўнае, ці навочнае стрэчы.

У іншых народаў ёсьць даўно складзеныя слоўныя формулы гэткіх прывітаньняў, што самыя па сабе, або дапоўненыя вітальнікам, гучаць глузднa й элеганцка.

У нас-жа ўсё яшчэ ня зводзяцца пераклады з чужога, як "вясёлых сьвят", ці "шчасьлівага новага году", што ніякага роднага прысмаку ня маюць.

Рэдакцыя "Царкоўнага Пасланца" ймкнучыся ўзварушыць гэты неруш ужо колькі год прапануе калядняе й навагодняе віншаваньне словамі "Радай Каляды й Шчадра Налета!", што маюць водгук народнае гутаркі.

Пэўна-ж, гэта не адзіныя выслоўі на гэтую патрэбу й, не паленаваўшыся, можна здумаць яшчэ нямала іншых, але шукаць іх трэба не адкладаючы.

Згадаўшы віншаваньні й пажаданьні прыходзіць думка, што ня толькі на рэлігійныя сьвяты ў нас яны ня складзеныя, але й на вітаньні з нагоды асабовых, ці сямейных урачыстасьцяў у нас не хапае гладкіх словаў, а ўжо праз песьню й гаварыць не даводзіцца.

Дык і гэтта нашым паэтам і музыкам ток для ўмалоту, каб, прыкладам, у вуснах нягібкае "з днём нараджэньня" змовіць, або яшчэ й засьпяваць неяк інакш.

Варочаючыся да Калядаў, робіцца сумна, што мы з добрым намерам робім нашым дзецям шкоду, бо даем ім падаркі праз Дзеда Мароза.

Цяжка бо ўявіць, што мае супольнага дзед, ці іншы мароз з бацькоўскай любасьцяй ды сьвятняй цеплынёю, але разумова ўмерзшы ў суседзкі звычай нам і няўздум за свой схамянуцца.

А кожны іншы народ мае свой назоў старэнькага дабрадзея, што прыносіць на Каляду дзецям падаркі, дык ці й нам не была-б пара называць яго па свойску Дзедам Калядою?

Гэта, вось, нашыя думкі да сьвята й на сьвята, а што думаеце Вы, Дарагія Чытачы?

---

**РАДАЙ КАЛЯДЫ Й ШЧАДРА НАЛЕТА!**

**З ХРЫСТОВЫМ НАРАДЖЭНЬНЕМ ВІТАЕМ ДАБРАДЗЕЯЎ І ЧЫТАЧОЎ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА" ДЫ ЎСІХ ВЕРНІКАЎ БАПЦ! УСІМ УПРАШАЕМ БОЖАГА ПРЫЯНЬНЯ НА ДОБРАЕ ЗДАРОЎЕ Й ПАМЫСНАСЬЦЬ У НОВЫМ ГОДЗЕ!**

---

## СЯБРАМ

Засьвецяць зоры зыбкімі вагнямі,
Сьвяты як Вечар зноў настане
І мы прадзеднім звычаям зь сям'ёю
За стол засядзем із куцьцёю.

Тады ў падзякі слове ўспомніць міла,
Што больш нам доля пашчасьціла
За ўсе багацьці шчодрымі дарамі:
Лет зьбеглых шчырымі сябрамі.

Зь якімі ўцеху й боль дзялілі
І справы добрыя рабілі,
Што ў спор і звод, як здарыла часамі,
Сталі ўпоруч разам з намі.

І ў сэрцы цёпла сьвятняю парою,
Што мы ня толькі між сабою
У сям'і на шчасьце выслаўім жаданьні,
Але й сяброў нам йдуць вітаньні:

Здалёк і зблізка, быць дзе давялося,
У нас думкі лучацца ў вадно ўсе
Й сябром на ўдань, сям'і ўсядно як роднай,
Уздароўкі п'ем мы чаркі додна.

А ўвер каб быў ў прыязным ўспамінаньні
Мы й песьняй выявім жаданьні:
Каб з Калядой к Вам радасьць завітала
Й Вас цэлы год не пакідала!

## КІЯЎСКІ ПАТРЫЯРХ У ЗША

Праз год пасьля наведу Я. М. Мітрапалітам Ізяславам Кіява й гасьціннага прыйма яго там Першагерархам Украінскае Праваслаўнае Царквы Яго Сьвяцействам Сьвяцейшым Патрыярхам Усяе Украіны-Русі Філарэтам збылося выказанае тады пры ад'езьдзе пажаданьне сустрэцца неўзабаве за акіянам - 23-га кастрычніка г.г. Яго Сьвяцейства прыехаў у ЗША.

Суправаджалі Сьвяцейшага Патрыярха Філарэта ягоны сакратар і выкладчык Кіяўскае Духоўнае Акадэміі а. ігумен Зьміцер Рудзюк, ды некалькі журналістаў.

Ад Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Цаквы дастойнага госьця на лётаве Кэннэды ў Нью Ёрку з букетам кветак віталі Я. М. Мітрапаліт Ізяслаў, а. архімандрыт Аляксей і сакратар Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк.

Сустракала свайго Архіпастыра з хлебам і соляй, ды кветкамі таксама й грамада праваслаўных украінцаў.

Ня гледзячы на ахвоту шмат каго з прысутных на сустрэчы прывітаць Яго Сьвяцейства асабіста й абмяняцца зь ім хоць пару словамі, Уладыкі знайшлі мамэнты, каб коратка пагутарыць і дамовіцца на пазьнейшую сустрэчу.

Зь лётава Яго Сьвяцейства Сьвяцейшы Патрыярх Філарэт накіраваўся ў Украінскі Праваслаўны Цэнтр у Баўнд Бруку, Н.Дж., а адтуль на другі дзень паехаў наведаць парахвіі Кіяўскага Патрыярхату ў Фларыдзе. Іллінойс, Індыяне ды дзе- інш у ЗША.

Пасьля 3-х тыднёвага агляду гэтых парахвіяў і сустрэчаў з украінскім грамадзтвам, ды кіраўнікамі украінскіх арганізацыяў у ЗША Яго Сьвяцейства прыбыў на колькідзённыя гэткія-ж сустрэчы ў Нью Ёрку й ваколіцах.

З гэтае нагоды украінскае грамадзтва 23-га лістапада зладзіла ў ягоны гонар прыйняцьце ў вялікай і шыкоўнай залі ў Кліфтане, Н.Дж., у якім узяло ўдзел больш як 250 чалавек.

На гэтае прыйняцьце былі запрошаныя й прысутнічалі на ім Я. М. Мітрапаліт Ізяслаў, а. архімандрыт Аляксей ды сакратар Кансысторыі БАПЦ сп. Барыс Данілюк.

Загадзя, аднак, перад прыйняцьцем Уладыкі сустрэліся ў асобным пакоі, дзе мелі размову аб актуальных царкоўных справах.

Падчас прыйняцьця Я. М. Мітрапаліт Ізяслаў сказаў прывітальнае слова, што было ўхваленае прысутнымі ўставаньнем і гарачымі воплескамі.

У канцы прыйняцьця Уладыкі цёпла разьвіталіся йз спадзяваньнем на наступную сустрэчу.

## ПАРАХВІЯ БАПЦ У АДЭЛАЙДЗЕ

Наўсуперак пушчаных непрыяцелямі БАПЦ і нязгодных з праўдай пагалосак аб імкненьні кіраўніка парахвіі ды Я. М. Мітрапаліта Ізяслава прадаць царкоўны будынак справы ў Парахвіі Сьв. Пётры й Паўла ў Гіндмарш, каля Адэляйды ў Аўстраліі, ідуць памысна.

Праўда, карыстаньне на парахвіяльныя патрэбы дасюлешнім царкоўным будынкам, з у вагі на будову ля яго стадыёну на частку алімпійскіх гульняў 2000-га году, неўзабаве стане немагчымым, але з Божае ласкі й дзякуючы стараньням кіраўніка парахвіі, Парахвіяльнае Рады й усіх парахвіянаў гэтая праблема йдзе да карыснага разьвязаньня.

Аўстралійскія ўлады даюць бо Парахвіі Сьв. Пётры й Паўла 4 кілямэтры ад дасюлешняга ейнага мейсца, дастатковую на будову царквы з заляй і дому для сьвятара, ды яшчэ й на прасторны пастаўны палетак (паркінг), дзялянку зямлі.

Разам з гэтым аўстралійскія ўлады забавязаліся пабудаваць іхным коштам на новым мейсцы гэткую-ж, як і была, ды нават крыху пабольшаную царкву, а побач зь ёю таксама й залю.

Цяпер адбываецца канчатковае ўдакладненьне архітэктурных плянаў, а неўзабаве пачнецца будова, канец якое й асьвячэньне новага царкоўнага будынку маюць быць у ліпені 1999-га году.

Цешачыся з Божае апекі над Парахвіяй Сьв. Пётры й Паўла ў Гіндмаршы ды ўпрашаючы ёй далейшае Знайвышняе ласкі мы заклікаем ейнага кіраўніка, Парахвіяльную Раду й парахвіянаў пачаць перад аўстралійскімі ўладамі захады за дапушчэньне ў Аўстралію з рэлігійных й палітычных прычынаў прасьледаваных на Бацькаўшчыне беларускіх патрыётаў, якія павялічылі-б лік вернікаў ды забясьпечылі-б далейшае йснаваньне парахвіі.

## ПСАЛЬМ 102

(ПЕРАКАЗ)

Хвалуй, мая душа, Гаспадара
Ды ўсё ўва мне Ягона Имя сьвятое;
Хвалуй, мая душа, Гаспадара
И што даў табе не забывай ўсё тое.

Бо віны Ён спускае ўсе твае
И з тваіх нямогаў чыста ўздараўляе,
Твайго жыцьця на згубу не дае
Ды любатой й спагадам акрывае

Дабра ў жыцьці дае табе ўнасыць,
Як арлянячу моладасьць вяртае,
За праўду Гаспадар усьцяж стаіць
Ды справядлівасьць скрыўджаным ўчыняе.

Свае шляхі Майсею Ён адкрыў
И явіў сынам Ізраілявым волю,
Шчодр Гаспадар і дужа міласьціў,
Нярaз папусьціць Ён ды дасьць патолю.

Ён за нішто бясконца ня злуе
Ды за нічога век не варагуе,
За віны не раўнёй нам аддае
И за кожны грэх нам кары ня рыхтуе.

Як над зямлёю небны склеп высок,
Ягона любасьць да людзей высока,
Як сонца ўсход ад захаду далёк,
Адводзіць нашы віны Ён дадёка.

Як шчодр сынам спагадлівы айцец,
Пакорных гэтак Гаспадар ўшчадрае;
Што трэба нам наш ведае Стварэц
И што з парахна пайшлі мы памятае.

Людзкія дні зусім як бы трава,
Бы кветка кожны адцьвітае:
Падзьмуў зьнячэўку вецер ды сарваў
И ягоны сьлед навекі прападае.

А скорным Гаспадар усьцяж ласкаў,
Нашчадкам іхным правы суд заўсёды,
Калі загады поўняць, што Ён даў
І не скрануць зь Ягонай Воляй згоды.

Пасад на небе Гаспадар узьнёс
Ды Гаспадарства над усім паставіў,
Хвалуйце ангялы Яго ускрозь,
Ягоны словы ў дзеі што ўчыняюць.

Гаспадара хвалуйце ўсе гурты
Ягонай Волі паслухмяных слугаў,
Хвалуй усё, што Ён на сьвет пусьціў
Ў Ягонай Улады незьмярных акругах.

Хвалуй, мая душа, Гаспадара!

**МІТРАПАЛІТ ІЗЯСЛАЎ**

**З БОЖАЕ ЛАСКІ ПЕРШАГЕРАРХ**

**БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**

# ПРЫВІТАНЬНЕ

**Годнаму Часьці Духавенству й Любым Вернікам ды Усім Праваслаўным Беларусам у Духоўны і Сьвецкім Стане, што да Свае Роднае Праваслаўнае Царквы ймкнуцца,**

**ЗЬ 50-МІ ЎГОДКАМІ ЎЗНАЎЛЕНЬНЯ ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ:**

Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры:

Пяцьдзесят год назад, у дзень памяці Сьвятое Еўфрасіньні, Князёўны Полацкае, 5-га чырвеня 1948-га году, у нямецкім месьце Канстанцы адбыўся зьезд, або, інакш кажучы, Сабор беларускіх праваслаўных вернікаў і духавенства, што ўзнавіў дзейнасьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы за межамі роднага Краю.

Узнаўленьне гэтае дзейнасьці стала неабходным пасьля таго, як два гады раней чужы паводле перакананьняў япіскапат зрадзіў ухваленую ў жнівені 1942-га году на Ўсебеларускім Саборы ў Менску аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы й перайшоў у варожую юрысдыкцыю.

Збылося-ж яно дзякуючы згодзе сястрыное Ўкраінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы дапамагчы ўзнавіць беларускі япіскапат, першагерархам якога стаў часова адпушчаны дзеля гэтае мэты сьв. пам. Архяпіскап Сяргей (Охотэнко).

Сьледам за Саборам у Канстанцы быў усьвячаны непахісны ў Праваслаўнай Веры ды патрыятычных пачуцьцях першы беларускі яніскап Васіль (Тамашчык), а пазьней і іншыя.

Пад кіраўніцтвам свайго япіскапату ўзнавіла пастырскую дзейнасьць і частка ранейшых, ды былі ўсьвячаныя новыя сьвятары БАПЦ і, гэтак, духовай апекай роднае Праваслаўнае Царквы была абнятая вялікая частка пасьляваеннае беларускае эміграцыі ў вольным сьвеце.

Слаўная падзея, 50-я ўгодкі якое сёньня адзначаем, важная, аднак, нятолькі дзеля выніклых зь яе царкоўнаарганізацыйных асягненьняў, але, перш за ўсё, дзеля ейнае духовае велічы й сымбалічнага значаньня.

У ёй, бо, выявілася й збылося народжанае яшчэ ў пору даўніх княстваў ды ўзрослае ў нашай магутнай задзіненай дзяржаве, Вялікім Княстве Літоўскім, пераказванае з пакаленьня ў пакаленьне ймкненьне нашага Народу займець верную Божым наказам ды прыяльную яму, а ня чужым інтарэсам, Праваслаўную Царкву.

Змаганьне за ўжыцьцяўленьне гэтага ймкненьня ўздымалася неаднойчы на працягу нашае гісторыі ды за кожным разам, не асягнуўшы мэты, было перамаганае варожымі сіламі.

Перамогі варожых сілаў не зламалі, аднак, волі нашага пабожнага Народу й, як толькі ягонай частцы пашчасьціла выйсьці ў вольны сьвет, яна ў першую чаргу ўзнавіла дзейнасьць свае роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Гэае ўзнаўленьне адбылося ня з ласкі кіраваных палітычнай каньюнктурай нянаскіх царкоўных вяльможаў, а, пераусім, праз ахвярнасьць лепшых сыноў нашага Народу, што, не зважаючы на цяжкасьці й небясьпекі, узьнялі на іхныя плечы крыж архіпастырскага й пастырскага служэньня, ды тых вернікаў і верніц, што праз усе нягоды гэты крыж нясьці памагалі.

А той крыж даводзілася й даводзіцца нясьці пакутніцкай дарогай, бо адвечныя ворагі дасюль ня спынілі іхных намаганьняў "паразіць пастыраў і расьцярушыць авец", а кіраўнічыя беларускія незалежніцкія дзейнікі не дарасьлі яшчэ, каб бачыць у Царкве, замест паслухмянае выканальніцы іхных захацяў, натхняльную духовую сілу на адраджэньне нашага Народу.

Затое пабожныя праваслаўныя патрыёты на Бацькаўшчыне сілу свае Праваслаўнае Царквы разумеюць і пачынаюць рабіць першыя крокі, каб узнавіць там родную ім Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

Гэткім чынам настае вызначаная Богам ды ўсімі намі чаканая пара, калі нашая Царква, ператрываўшы паўстагодзьдзя цяжкіх выпрабаваньняў на чужыне, але захаваўшы нязгаслы зьніч аўтакефаліі, або царкоўнае незалежнасьці ад усялякіх вонкавых дзейнікаў, верне яго на Бацькаўшчыну.

Верне яго, не каб абняць там уладу, але, каб асьвятляў ён сэрцы й розумы вернікаў ды натхняў іх на ажыўленьне роднае Царквы ў Краі, што будзе служыць Богу й Бацькаўшчыне ды часткаю Якое Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, што дзее за мяжою, была й застанецца.

Пазнакі набліжэньня пары радаснага вяртаньня нашае Царквы да жыцьця ў Краі, ды з чужыны, і пабуджаюць мяне прывітаць Вас, Любыя праз Хрыста Браты й Сёстры, зь 50-мі ўгодкамі падзеі, што была пачаткам гэтага вяртаньня.

Праз 50 год, што пасьля яе зыйшлі, шмат было асягнута, каб гэтае вяртаньне, або ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне зрабіць магчымым, але й нямала чаго засталося някранутым, або й было страчанае.

Вітаючы Вас сёньня йз слаўнымі ўгодкамі, я разам і заклікаю не здавольвацца здабытым, а працаваць і змагацца за далейшыя асягненьні.

Пачынальнікаў узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Бацькаўшчыне клічу ня спыняць змаганьня за нашую, дагодную Богу, Справу ды асьцерагаю ад пасткаў супрацоўніцтва зь цяперашняй царкоўнай уладай, якія гэтая ўлада апошня пачала ставіць.

Пабожных і патрыятычна настроеных суродічаў за межамі роднага Краю заахвочваю засноўваць малітоўныя грамады, ці парахвіі БАПЦ, бо толькі гэткія згуртаваньні забясьпечваюць выжываньне беларускіх асяродкаў у чужым навакольлі.

А да вернікаў БАПЦ у Ейных парахвіях і праваслаўных беларусаў у заходнім сьвеце зьвяртаюся з заклікам шчыльней згуртавацца вакол свае Царквы, больш ахвярна памагаць Ёй і працаваць на Ейную карысьць, ды падтрымоўваць справу Ейнага ўзнаўленьня на Бацькаўшчыне.

Гэтак, во, разам дзеючы мы й асягнем мэту ўзнаўленьня вернае Божым наказам ды прыяльнае патрэбам нашага Народу Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, да якое ймкнуліся пакаленьні нашых папярэднікаў, ды завязяй якое быў Сабор у Канстанцы, што ягоныя 50-я ўгодкі цяпер адзначаем.

## АДЗНАЧЭНЬНЕ 50-х УГОДКАЎ УЗНАЎЛЕНЬНЯ ДЗЕЙНАСЬЦІ БАПЦ У НЬЮ ЁРКУ

Адзначэньне 50-х угодкаў Сабору ў Канстанцы, на якім была ўзноўленая зьліквідаваная сталінскім тэрорам на Бацькаўшчыне й праз зраду зрасейшчанага япіскапату спыненая за мяжою дзейнасьць Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, пачалося ў Нью Ёрку й ваколіцы роўна 50 год пасьля гэтае падзеі, якраз у дзень памяці Сьв. Еўфрасіньні Полацкае, 5-га чырвеня г.г.

Раніцай у гэты дзень на беларускіх праваслаўных могілках у Іст Бранзвіку, што ў штаце Нью Джэрсы, Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў у прысутнасьці групы вернікаў паклаў букеты кветак на магілы там пахаваных мітрапаліта Андрэя, архіяпіскапа Васіля, пратаярэяў Сьцяпана й Хведара, ярэя Віктара, удзельнікаў Сабору ў Канстанцы Мікалая й Ніла, ды адправіў паніхіду за супакой усіх памерлых будаўнікоў, ды вернікаў БАПЦ.

У канцы адправы Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў зьвярнуўся да прысутных із словам, у якім успомніў усіх змагароў за аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Царквы й за незалежнасьць Бацькаўшчыны, ды выказаў упэўненасьць, што іхная ахвярнасьць прыхіліць Божую Ласку на асягненьне гэтых нашых нацыянальных мэтаў.

Урачыстасьць скончылася прапяяньнем жальнага маршу "Сьпеце ўсе тыя, што праўды па сьвеце шукалі".

Варта дадаць, што за два дні перад угодкамі сакратар Кансысторыі сп. Барыс Данілюк меў інтэрв'ю з рэдакцыяй беларускіх перадачаў польскага радыя, у якім падаў кароткую інфармацыю праз БАПЦ і Ейны юбілей, а 5-га чырвеня карэспандэнцыя аб урачыстасьці на могілках была дасланая ў рэдакцыі беларускіх перадачаў польскага радыя й радыя "Свабода" ў Празе, на хвалях якіх яна й перадавалася некалькі разоў.

Галоўнае сьвяткаваньне 50-х угодкаў узнаўленьня дзейнасьці БАПЦ за мяжою, з увагі на тое, што ў нядзелю, зараз-жа пасьля іхнае даты, выпала Сёмуха, а ў нядзелю ўсьлед за ёю праходзіў агляд Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне амэрыканскай публікай, адбылося ў нядзелю Беларускіх Сьвятых і Айцоў Аўтакефаліі, 21-га чырвеня г.г.

Пачалося яно раніцай у Катэдральным Саборы БАПЦ імя Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне пастрыжэньнем а. пратаярэя Юрага Драздоўскага ў манаскі стан з наданьнем яму імя Аляксей.

Пасьля пострыгу Сьв. Літургію адправіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з а. Аляксеям, які ў часе адправы быў узвышаны у годнасьць ігумена, а ўсьлед і архімандрыта.

Пропаведзь аб жыцьцях Беларускіх Сьвятых ды аб намаганьнях Беларускага Народу займець собскую аўтакефальную Праваслаўную Царкву, чарговы этап якіх завяршыўся 50 год назад узнаўленьнем дзейнасьці БАПЦ за мяжою, сказаў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Усьлед пасьля Сьв. Літургіі быў малебен з падзякай Богу за Дар Беларускаму Народу роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы й з прасьбою празь за Ейнае вяртаньне на Бацькаўшчыну.

Пасьля адправаў у парахвіяльнай залі адбыўся сьвяткавальны сход, што пачаўся заклікам Божага прыяньня прысутным, якое змовіў Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў.

Усьлед хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць удзельнікаў Сабору ў Канстанцы, на якім у 1948-м годзе была ўзноўленая дзейнасьць БАПЦ, за мяжою, ды ўсіх япіскапаў, сьвятароў і вернікаў, што беларускую аўтакефалію будавалі ды за яе, і за свабоду Бацькаўшчыны змагаліся.

Сумны мамэнт урачыстасьці зьмяніўся пасьля таго ў радасны, калі Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў з а. Архімандрытам Аляксеям прывіталі ўдзельніцу Сабору ў Канстанцы сп-ню Ганну Войтанка й у падзяку за ейную дзейнасьць на дабро БАПЦ, пры пяяньні прысутнымі "Дай, Божа, шмат год!", уручылі ёй букет кветак.

Радасны настрой яшчэ больш узьнялі прывітаньні, перш адумыслова прыбылага зь Беларусі прадстаўніка вернікаў БАПЦ, а ўсьлед і сябра кіраўніцтва Беларускага Народнага Фронту сп. Сяргея Навумчыка.

Тады кароткае, але зьмястоўнае, прысьвечанае гісторыі БАПЦ ды ўзнаўленьня Ейнае дзейнасьці 50 год назад слова сказаў сп. Юры Васілеўскі.

Галоўнай выканальніцай у канцэртнай частцы выступіла былая артыстка гарадзенскага тэатру сп-ня Ліда Кано, якая на вялікае задаваленьне публікі прасьпявала сьпярша "Ave Maria" Шубэрта ды дзьве пабожныя беларускія песьні на словы й мэлёдыі Барыса Данілюка.

Акампаніявала на піяніна сп-ня Тацьцяна Дзямешчык.

Усьлед за гэтым сп. Барыс Данілюк прачытаў ягоныя новыя вершаваныя пераклады псальмаў 89-га й 102-га.

Прыемнай неспадзеўкай далей быў выступ добра ўжо прысутным знаёмае маладое сьпявачкі-кампазытаркі сп-чны Вольгі Казак, што прапяяла беларускую народную песьню "Цячэ рэчанька".

Яшчэ адной неспадзеўкай быў выступ сп. Мікалая Сагановіча зь ягонай жонкай, што разам прапялі пару песьняў рэлігійнага зьместу.

У апошняй частцы канцэрту сп-ня Кано прапяяла некалькі беларускіх народных і пару італьянскіх песьняў, за што атрымала нятолькі шчырыя вопleскі прысутных, але й зь ейнай акампаніюткай сп-няй Тацьцянай Дзямешчык букеты кветак.

Сьвяткаваньне скончылася традыцыйным ужо прапяяньнем усімі песьні "Пачуй, о, Ласкавая Маці", прасьбой Божае прыхільнасьці удзельнікам ад Я.М. Мітрапаліта Ізяслава ды беларускім нацыянальным гімнам.

Духова падмацаваныя малітвамі ў роднай Царкве ды ўпатоленыя з тугі па бацькоўскіх кутках роднай песьняй і мовай прысутныя ўрэшт разыйшліся, каб вярнуцца да запраўднасьці эміграцкага жыцьця.

Карэспандэнцыя аб сьвяткаваньні ўзноў была пасланая ў рэдакцыі беларускіх перадачаў польскага радыя й радыя "Свабода".

---

Няхай-жа наш Збавец Ісус Хрыстос, праз малітвы Божае Маці й Сьвятых Беларускае Зямлі, дае Вам Ягоныя шчодрыя Ласкі й мае Вас у апецы, ды памагае Вам праз жыцьцёвыя ўдачы служыць Яму й вернай Яму Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Сьцеражы, Божа, Беларускі Край!

\+ *Мітрапаліт Ізяслаў*
Першагерарх
Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы
Замежжа, Чырвень Божага Лета 1998-га

## ЗНАЁМСТВА АМЭРЫКАНЦАЎ З САБОРАМ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

У нядзелю, 14-га чырвеня г.г., грамадзкая арганізацыя, што займаецца палепшаньнем часткі Брукліну, дзе знаходзіцца Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, наладзіла чарговы штогодні агляд мясцовых архітэктурных памятак, у тым ліку й нашае сьвятыні, амэрыканскай публікай.

Працягам трох гадзінаў папаўдні Сабор звонку й у сярэдзіне агледзела больш як дзьвесьце амэрыканцаў.

Паясьненьні праз Сабор і БАПЦ, ды празь невялікую выстаўку, што адлюстроўвала нашую царкоўную й дзяржаўную мінуласьць, даваў сп. Б. Данілюк.

Паясьненьні былі адкрыцьцём для большасьці наведвальнікаў і з удзячнасьці за інфармацыю некаторыя зь іх далі ахвяры на рамонт царкоўнага будынку.

# АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ ТАМАШЧЫК

**1900** (ДА 50-Х УГОДКАЎ УЗНАЎЛЕНЬНЯ БАПЦ) **1970**



Узнаўленьне дзейнасьці БАПЦ за мяжою гэтак цесна павязанае зь дзейнасьцяй сьв. пам. Архіяпіскапа Васіля, што без ўспаміну ягонае сьветлае асобы ды згаду ягонага прысьвечанага Богу й Бацькаўшчыне жыцьця ў 50-я ўгодкі гэтае гістарычнае падзеі, ейны абраз быў-бы няпоўны ды бледны.

Пэўна-ж, першым фармальным крокам гэтага ўзнаўленьня быў ахвярны пераход у БАПЦ ды Ейнае ачоленьне сьв. пам. Архіяпіскапам УАПЦ Сяргеям, але стала яно запраўднасьцяй ды захапіла сэрцы праваслаўных беларускіх патрыётаў толькі тады, калі фактычнае царкоўнае кіраўніцтва абняў усьвячаны ў япіскапскую годнасьць шчыры беларускі патрыёт - Архіяпіскап Васіль.

Архіяпіскап Васіль, у сьвецкім жыцьці Уладзімер, нарадзіўся 15-га красавіка 1900 г. у сям'і Данілы й Марыі з Жанеўскіх Тамашчыкаў, што жылі на гаспадарцы ў сяле Вялікія Азяраны Горадзенскага павету й тагачаснае царскае губэрніі.

Ягоныя бацькі ўмелі гаспадарыць і цяжка працуючы ўзьнялі вартасьць іхнае гаспадаркі да цаны, за якую яе прадаўшы, змаглі купіць цэнтар двара ў Дублянах, каля мястэчка Вялікая Бераставіца, у тым-жа Горадзенскім павеце, куды ў 1913-м годзе ўся сям'я й перабралася.

Пачатковую школу Уладзімер наведваў і скончыў яшчэ ў Вялікіх Азяранах, а далей вучыўся ў Горадні.

Нажаль сям'і Тамашчыкаў ня было наканавана доўга цешыцца новым асельлем, бо неўзабаве пачалася першая сусьветная вайна й царская ўлада, войскі якое адкочваліся пад нямецкім націскам на ўсход, прымусіла іх эвакуавацца ажно ў Омск на Сібіры.

Гэта ня была, аднак, адзіная бяда, што ім давялося дазнаць ад вайны - на фроньце загінуў і пакліканы ў войска старэйшы сын Янка.

У Омску Уладзімер вучыўся ў сярэдняй школе, якую скончыў у 1920-м годзе.

Тымчасам вайна супраць Нямеччыны ды ейных хаўрусьнікаў яшчэ ў 1918-м годзе дайшла да канца й у Расеі ў жудасьцях грамадзянскае вайны ўсталёўвалася савецкая ўлада, а частка Беларусі, адкуль паходзіла сям'я Тамашчыкаў апынулася пад польскай акупацыяй.

У выніку гэтых зьменаў зьявілася магчымасьць вярнуцца дамоў, што яны й пастанавілі зрабіць.

Нажаль, ужо перад самым ад'ездам на Бацькаўшчыну выпала дазнаць яшчэ адно гора - памёр бацька.

Гэтак у 1921-м годзе з маці ў Дубляны вярнуліся чатыры сыны: Аляксандар, Уладзімер, Язэп і Міхась.

Усім ім давялося цяжка працаваць, каб паставіць на ногі спусьцелую й зруйнаваную за вайну гаспадарку.

У гэтую пару ў Заходняй Беларусі, што была пад польскай акупацыяй, буйнеў беларускі рух, які не абмінуў і ваколіцы Дублянаў ды захапіў маладога Уладзімера Тамашчыка.

Улучыўшыся ў гэты рух ён становіцца ў ім нагэтулькі актыўным дзеячам, што зварочвае на сябе ўвагу польскіх уладаў, якія ў 1927-м годзе яго арыштоўваюць ды ўсьлед, быццам за падрыхтоўку збройнага паўстаньня, засуджваюць на тры гады зьняволеньня.

Пасьля ліквідацыі масавага беларускага нацыянальнага руху пад Польшчай Уладзімер Тамашчык, ня бачачы сабе ніякае будучыні ў родным кутку, наважвае здабыць вышэйшую асьвету.

Як палітычна ненадзейнаму яму, аднак, ня было магчымасьці пайсьці ў вышэйшыя польскія школы й таму ён у 1930-м годзе накіроўваецца ў чэхаславацкую сталіцу Прагу, дзе запісваецца на агранамічны факультэт палітэхнікі.

Агранамічны факультэт пражскае палітэхнікі, зь ягонымі выдатнымі выкладнікамі, багатымі лябараторыямі й дасьледнымі палеткамі, быў у той час мабыць адной з найлепшых навучальных установаў у гэтай галіне ведаў у Эўропе.

Гэта й паспрыяла выявіцца здольнасьцям і працавітасьці Уладзімера Тамашчыка, дзякуючы якім ён у 1934-м годзе нятолькі з найлепшымі адзнакамі скончыў палітэхніку й атрымаў дыплём інжынера-агранома, але й быў запрошаны працаваць асыстэнтам праф. Білака ў пражскім інстытуце заалёгіі.

Побач навукі й працы ён, аднак, знаходзіў час і сілы, ды аддаваў іх на нацыянальную дзейнасьць у коле беларускае эміграцыі, што тады жыла ў Празе, а нейкі час нават быў сакратаром старшыні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі Васіля Захарка.

Пачатак нямецка-польскае вайны ў 1939-м годзе застаў інжынера Тамашчыка ў Празе, адкуль ён толькі пасьля займа Беларусі немцамі ў 1941-м вярнуўся ў родныя Дубляны.

Удома, аднак, доўга не давялося быць, бо ў далучанай да райху Беласточчыне адраджаецца беларускі нацыянальны рух і ён уваходзіць ува ўправу Беларускага Нацыянальнага Камітэту, што стварыўся ў Беластоку, ды разам займае яшчэ становішча заступніка рэдактара газэты "Новыя Дарогі".

Ягоная дзейнасьць у Беларускім Нацыянальным Камітэце была асабліва карысная і з тае прычыны, што, добра ведаючы нямецкую мову, ён, калі толькі была магчымасьць, заступаўся й ратаваў зь нямецкага арышту хвальшыва ўдадзеных нашымі ворагамі беларусаў.

У 1944-м годзе ў складзе дэлегацыі зь Беласточчыны Уладзімер Тамашчык браў удзел у 2-м Усебеларускім Кангрэсе ў Менску.

Улетку таго-ж году, калі на зьмену крывавае нямецкае акупацыі ўзноў варочаецца ў наш Край ня меш жорсткае й бязьлітаснае савецкае займо, ён падаецца на захад.

Апынуўшыся ў Нямеччыне, пасьля ейнае капітуляцыі, інж. Уладзімер Тамашчык з 1946-га году колькі часу працаваў лектарам-асыстэнтам на заснаваным УНРА'й для ваенных уцекачоў унівэрсытэце ў Мюнхэне.

У тую пару на гэным унівэрсытэце вучылася звыш паўсотні маладых беларусаў, якія яшчэ ў канцы 1945-га году заснавалі там першае беларускае студэнцкае згуртаваньне, што, апрача сяброўскае ўзаемадапамогі, вяло моцную нацыянальную дзейнасьць ды выдавала часапіс "Крывіцкі Сьветач"

Інжынер Тамашчык быў шчырым апякуном, добрым райнікам, а нават і ахвочым памочнікам у дзейнасьці студэнцкага згуртаваньня.

Звыш гэтага ён быў яшчэ старшынём Цэнтральнага Беларускага Камітэту ў Нямеччыне ды рэпрэзэнтаваў беларусаў у арганізацыі Антыбальшавіцкі Блёк Народаў.

Як праваслаўнаму верніку й беларускаму патрыёту, яму, як і іншым верным свайму краю эмігрантам, у той час балела зрада япіскапату Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы, што ў 1946-м годзе адрокся ад

чатыры гады раней абвешчанае аўтакефаліі ды улучыўся ў манархістычную й імпэрыялістычную Зарубежную Расейскую Праваслаўную Царкву.

Кіраўнічае становішча інж. Тамашчыка ў арганізацыйным жыцьці беларускае эміграцыі вымагала, аднак, звыш дазнаньня болю, яшчэ й пошуку ратунку ад царкоўнае біды, у якой нятолькі эміграцыя, але й будучыня незалежніцкага змаганьня апынулася.

Разам зь іншымі аднадумцамі ён неўзабаве дайшоў да выснаву аб патрэбе ўзнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы за мяжою, зь якога ўсьлед вынік зварот ад беларускіх арганізацыяў да Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы з просьбай дапамогі ў гэтай справе.

Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква паставілася да гэтае просьбы прыхільна й адразу пачала гутаркі з прадстаўнікамі беларускае эміграцыі аб практычных кроках да ўзнаўленьня дзейнасьці сястрыное Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Першым з гэтых крокаў была згода УАПЦ на пераход у БАПЦ і Ейнае ачоленьне архіяпіскапам Сяргеям, што фармальна збылося на Саборы ў Канстанцы 5-га чырвеня 1948-га году.

Беларускія праваслаўныя вернікі жадалі, аднак, займець у сваёй Царкве япіскапа беларуса, якому былі-б бліжэйшыя й больш зразумелыя іхныя рэлігійныя і патрыятычныя імкненьні.

Кандыдатаў на гэтую годнасьць сярод разумова скалечаных Расейскім Праваслаўем беларускіх манахаў, ці нават богаведна адукаваных вернікаў, знайсьці было немагчыма й пасьля глыбокае развагі ў ягоным сумленьні Уладзімер Тамашчык пастанавіў узяць гэты цяжкі крыж на свае плечы.

Згодна зь ягонай пастановай 23-га красавіка 1949-га году архіяпіскап Сяргей пастрыгае яго ў манаскі стан, а ў дзень Сьв. Еўфрасіньні Полацкае, 5-га чырвеня ўсьвячае ў ераманаха ды 9-га верасьня гэтага-ж году ўзвышае ў годнасьць ігумена.

Пачатныя крокі ўзнаўленьня дзейнасьці БАПЦ выклікаюць сярод беларускае эміграцыі вялікі рэлігійны ўздым і хвалю ахвярнасьці.

Найвыдатнейшым асягненьнем гэтага ўздыму й ахвярнасьці была арганізацыя ў беларускім лягеры для ваенных уцекачоў у Розэнгайме, што ў паўдзённай Баварыі, парахвіі БАПЦ Сьв. Мікалая Дзіватворцы, кіраўніцтва якое й абняў ігумен Васіль Тамашчык.

За кароткі час прызначанае ўладамі для адправаў памешканьне было талакою прытарнаванае да адправаў, а зь нястачы грошай на закуп царкоўнага уладжаньня, усё яно было зробленае рукамі вернікаў.

Разам з гэтым пад кіраўніцтвам кампазытара Міколы Равенскага стварыўся вельмі добры царкоўны хор.

Гэткім чынам паўсталі абставіны, у якіх можна было годна правесьці наступны крок узнаўленьня дзейнасьці БАПЦ, а гэта ўсьвячэньне ігумена Васіля ў япіскапа.

На ягонае ўсьвячэньне была атрыманая згода Сыноду Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, які даручыў выкананьне япіскапам Платону й Вячаславу.

Перад вызначанай датай гэтае гістарычнае падзеі ўладыкі УАПЦ і архіяпіскап Сяргей прыбылі ў Розэнгайм і на конадні сьвята Сьв. Мікалая Дзіватворцы ўзьнялі ігумена Васіля ў годнасьць архімандрыта.

У дзень-жа самога сьвята, 19-га сьнежня 1949-га году, тымі-ж уладыкамі, пры ўдзеле духавенства БАПЦ і УАПЦ, ён быў усьвячаны ў япіскапа.

Гэтак пачалася поўная цяжкасьцяў і нястачаў, ды нават прыкрасьцяў 21-я гадовая ахвярная архіпастырская служба гэтага змагара за права Беларускага Народу ўпрашаць Бога ў сваёй Царкве.

Неўзабаве пасьля ўсьвячэньня пачаўся людны ад'езд беларускіх уцекачоў на сталыя мейсцы пасяленьня за акіянамі, дзеля чаго было пастаноўлена, што архіяпіскап Сяргей паедзе, каб апекавацца імі ў Аўстраліі, а япіскап Васіль накіруецца дзеля гэтае-ж мэты ў ЗША.

Каб дазволіць япіскапу Васілю скончыць ягоныя студыі на Украінскай Праваслаўнай Багаведнай Акадэміі ў Мюнхэне, ягоны ад'езд быў, аднак, адкладзены да атрыманьня ім дыплёму.

Гэтую затрымку япіскап Васіль выкарыстаў, каб улетку 1950-га году наведаць беларускіх праваслаўных вернікаў у Англіі, дзе ўсьвяціў у сьвятарскі стан Аляксандра Крыта й гэтым даў пачатак арганізацыі парахвіяў БАПЦ у гэтай краіне.

Урэшт, атрымаўшы 27-га травеня 1951-га году дыплём магістра багаведы, улетку таго-ж году япіскап Васіль ступае на амэрыканскую зямлю й спыняецца ў Брукліне, дзе ўжо йснавала нядаўна заснаваная а. Хведарам Данілюком парахвія БАПЦ.

Адправы ў парахвіі, нажаль, адбываліся ў часова найнятым крамным памешканьні й Япіскап Васіль адразу пачаў шукаць больш адпаведнага на гэта мейсца.

Неўзабаве яму здарыла сустрэць сьвятара карпатарускае юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхату, які запрасіў уладыка перанесьці Божыя Службы ў ягоную царкву ў дольнім Мангэтане.

Гэткім чынам ад 1952-га да 1956-га году ньюёркская парахвія БАПЦ малілася й вяла ейную арганізацыйную дзейнасьць падсуседам у чужым будынку, што, мабыць, і спрычынілася да маруднага збору грошай на свой кут.

Япіскап Васіль, усё-ж, не забываўся на ягоныя кіраўнічыя архіпастырскія абавязкі й з пачатку 1955-га году пачаў выдаваць ворган БАПЦ "Голас Царквы", які й рэдагаваў, ды найбольш сам пісаў ажно да сьмерці.

У 1954-м годзе загадам першагерарха БАПЦ япіскап Васіль быў узьняты ў годнасьць архіяпіскапа.

Апрача архіпастырскае дзейнасьці ён ня цураўся, аднак, і грамадзкіх абавязкаў, ды праз некалькі год быў старшынём Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, а таксама падтрымоўваў дзейнасьць Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Рады БНР.

1956-ты год абярнуўся для Уладыкі Васіля, парахвіі БАПЦ і беларускага грамадзтва ў Нью Ёрку ў пару крызысу, бо з прычыны сьмерці сьвятара, у царкве якога йшлі адправы ды працавала грамадзкае жыцьцё, будынак апынуўся ў руках спадчыньнікаў, зь якімі не ўдалося дамовіцца на продаж.

Гэткім чынам узноў давялося вярнуцца да найма на адправы выпадковых памешканьняў.

Усё-ж, гэтая няўдача ўзварухнула ньюёркскую беларускую грамаду й у ёй узмоцненым парадкам пайшоў збор грошай на свой кут, што дазволіў у 1957-м годзе купіць царкоўны будынак у Брукліне з дастатковым мейсцам на царкоўныя адправы й на дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў.

Адноўлены коштам, а найбольш ахвярнай працай беларускага грамадзтва гэты будынак да сёньня дзее як Катэдральны Сабор БАПЦ Сьв. Кірылы Тураўскага й вітае ў ягоных сьценах усялякую беларускую нацыянальную, ды грамадзкую дзейнасьць.

Узмоцнены духова прыдбаньнем свае прасторнае й прыгожа ўладжанае сьвятыні архіяпіскап Васіль прысьвячае шмат часу на палепшаньне працы парахвіі, у тым ліку й навучаньню дзяцей рэлігіі ў беларускай сыботняй школцы.

Разам з гэтым ён робіць далейшыя крокі да фармальнае арганізацыі паўночна-амэрыканскае япархіі БАПЦ, у выніку якіх штатная асамблея Нью Ёрку прыйняла XVIII-ты артыкул закону аб рэлігійных карпарацыях, што ўстанавіў згодны з правам нутраны лад БАПЦ ды акрэсьліў ейнае становішча ў амэрыканскай дзяржаве.

## А. АРХІМАНДРЫТ АЛЯКСЕЙ ДРАЗДОЎСКІ

Сёлета ў чырвені, блізка да 50-х угодкаў узнаўленьня Ейнае дзейнасьці за мяжою, Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ўзбагацела на дазналага пастыра й патрыёта - у Ейнае ўлоньне прыйшоў тады пратаярэй Юры, а цяпер архімандрыт Аляксей Драздоўскі.

Айцец архімандрыт Аляксей нарадзіўся 10-га студзеня 1958-га году ў сям'і Паўла й Сузаны Драздоўскіх, у якой была ўжо старэйшая дачка Софія.

Ягоныя бацькі жылі тады ў Джэрсы Сіты, на другі бок Гудсону ад Нью Ёрку, і там малы Юрка наведваў пачатковую, а падросшы й сярэднюю каталіцкія школы.

Ягоныя пабожныя й патрыятычна настроеныя бацькі, апрача здабыцьця агульных ведаў, дбалі, аднак, і праз пазнаньне ім асноваў Праваслаўнае Веры ды знаёмства з роднай спадчынай, а таму празь некалькі год прывозілі яго на навуку ў сыботнюю беларускую школку, што працавала тады пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага.

Асновы Праваслаўнае Веры ў школцы выкладаў сьв. пам. Архіяпіскап Васіль, якога дасюль а. архімандрыт Аляксей успамінае зь цяплынёй і пашанай.

Нажаль у канцы 60-х гадоў у парахвіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне стаўся зарганізаваны звонку закалот, ад якога пахіснуўся нутраны парадак, а зь ім заняпала й сыботняя школка, ды, пасьля сьмерці ў 1970-м годзе Архіяпіскапа Васіля навучаньне рэлігіі ў ёй спынілася.

Зьнеахвочаная паводзінамі спраўнікаў закалоту ды зьняверанная ў будучыні БАПЦ сям'я Драздоўскіх пачала тады наведваць адправы ў блізкай да мейсца іхнага жыхарства парахвіі Зарубежнае Расейскае Царквы, дзе Юрка паглыбляў ягоныя веды Праваслаўнае Веры ды пазнаваў парадак Божых Служба́ў.

Гады йшлі хутка й Юрка, скончыўшы сярэднюю школу, пайшоў на вышэйшую навуку ў каледж Сьв. Пётры ў Джэрсы Сіты.

Падчас студыяў у калэджы ён сустрэў, як яму здавалася, сталую спадарожніцу жыцьця й ў 1978-м годзе зь ёю ажаніўся.

Неўзабаве навука ў калэджы дайшла да канца й Юры Драздоўскі, атрымаўшы ў 1980-м годзе ступень бакалаўра бізнэсовага мэнэджмэнту, а ў 1981-м магістра адукацыйнае адміністрацыі й нагляду, выйшаў у сьвет.

Насалоды гэтага сьвету, аднак, ня надзілі яго, а ў душы расло яшчэ змалку пачутае пакліканьне прысьвяціць сябе на службу Богу, што ўрэшт і прымусіла яго пайсьці ў сьвятарскі стан.

Паколькі ў БАПЦ ня было тады сьвятарскіх мейсцаў ды ў Ей самой узноў узьняліся падпаленыя звонку непарадкі Юры Драздоўскі наважыў ісьці на службу ў Зарубежную Расейскую Царкву.

Гэткім чынам 4-га лістапада 1978-га году ён быў усьвячаны ў дыяканскую, а 4-га лістапада 1980-га году ў сьвятарскую годнасьць.

Ягонаму імкненьню здабыць фармальную багаведную асьвету, нажаль, не давялося зьбыцца, бо зь нястачы сьвятароў ён адразу быў прызначаны на парахвію й патрэбныя пастырскія веды мусеў здабываць самаадукацыяй.

Да гэтага, не хаваючы, а з гонарам выяўляючы ягонае беларускае паходжаньне й нацыянальную сьведамасьць, ён адчуваў сябе ў "неделимо русской" царкве пабочным і не цалком даверным чалавекам.

Наўзьверх гэтае няпрытульнасьці ў пастырскай службе, Бог паслаў а. Юраму яшчэ й жыцьцёвае выпрабаваньне - у 1994-м годзе адыйшла ад яго жонка з двама дзяцьмі, пасьля чаго сужэнства было разьвязанае цывільным і царкоўным разводам.

Гэты страшэнны выцень глыбака ўскалыхнуў душу а. Юрага й ён у роспачы думаў нат пакінуць сьвятарскую службу ды папрасіў адпушчэньня з парахвіі, дзе колькі часу быў кіраўніком.

У малітвах да нашага Збаўца, Найсьвятое Божае Маці й Вялікамучаніка Юрага шукаючы патолі й далейшага шляху ў жыцьці ён усьведаміў, аднак, што насланыя на яго перажываньні гэта знайвышні наказ цалком прысьвяціць сябе на службу Богу й свайму Народу ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве.

Ідучы за гэтым наказам а. Юры зьвярнуўся да Я.М. Мітрапаліта Ізяслава з просьбай прыйняць яго ў лік духавенства Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды пастрыгчы ў манаскі стан.

Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў здаўна знаючы а. Юрага й ягоных бацькоў, ды бяручы на ўвагу ягоныя пастырскія веды й практыку, з радасьцяй здаволіў просьбу.

21-га чырвеня г.г. Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў у Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага пастрыг а. Юрага Драздоўскага ў манаскі стан, даючы яму ў памяць забітага ў мінулую вайну дзеда імя Аляксей, ды ўсьлед падчас Сьв. Літургіі узьняў у годнасьць ігумена, а затым архімандрыта.

Нашага новапастаўленага царкоўнага дастойніка чакае мноства працы, як на нутраной царкоўнай ніве, гэтак і на дзялянцы вонкавых дачыненьняў, ды ў справе ўзнаўленьня БАПЦ на Бацькаўшчыне.

Горача ўпрашаем яму Божае помачы ў цяжкім абавязку ды заклікаем вернікаў БАПЦ і ўсіх праваслаўных беларусаў падтрымоўваць яго на ахвярным шляху.

Вернік

## АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ ТАМАШЧЫК

(ЗАКАНЧЭНЬНЕ ЗЬ 7-е БАЧ.)

Пачынаючы з 1961-га году пачынаюць зьбірацца й япархіяльныя саборы, ды ствараюцца япархіяльныя кіраўныя ворганы.

Не забывае ўладыка Васіль і парахвіі БАПЦ вонках Нью Ёрку, ды трымае зь імі сталую лучнасьць, а пры нагодах і сам едзе наведаць там вернікаў.

Дбаючы праз рэпрэзэнтацыю беларускае справы ў сьвеце ён, у супрацоўніцтве зь беларускімі арганізацыямі, на 25-га сакавіка штогоду езьдзіць у Вашынгтон, дзе сьпярша ў прадстаўнічай гасподзе, а пасьля ў сэнаце ЗША чытае малітвы за Беларускі Народ.

Падчас побытаў з гэтае нагоды ў Вашынгтоне ён, а зь ім і прадстаўнікі беларускіх арганізацыяў знаёмяцца з выдатнымі амэрыканскімі палітыкамі, як пазьнейшыя прэзыдэнты Лындан Джансан і Рычард Ніксан і інш., ды прадстаўляюць ім беларускія праблемы.

Праз усё ягонае жыцьцё душою застаючыся йз сваім народам уладыка Васіль, калі пачала працаваць радыястанцыя "Вызваленьне", з радасьцяй скарыстаў нагоду перадаваць на Бацькаўшчыну рэлігійныя гутаркі ў роднай мове, ды вёў іх праз некалькі год.

Канец жыцьця гэтага творчага працаўніка на Божай ніве й вялікага беларускага патрыёта прыцьміла, нажаль, варожая дывэрсыя й зрада, тых, каму ён шчыра верыў.

Шукаючы бо, пасьля сьмерці а. Хведара Данілюка сьвятара сабе да помачы, уладыка Васіль даверліва прыйняў варожага агента, што борзда разлажыў парахвію ды з часткай вернікаў паймкнуўся яе зусім забраць.

Калі-ж гэта не ўдалося, той прайдзісьвет завёў падбухтораных ім вернікаў у чужую царкву, а сам зьнік.

Тыя зманутыя вернікі пазьней, пэўна-ж, вярнуліся-б, калі-б зь бяды не скарысталі нашыя палітыканы, што, каб займець прыхільнікаў, пайшлі на канчатковы разрыў.

Памёр сьв. пам. архіяпіскап Васіль Тамашчык у загадкавых абставінах 9-га чырвеня 1970-га году.

Я. Сланімец

## УСПАМІН АБ САБОРЫ Ў КАНСТАНЦЫ

(ІЗ СЛОВАЎ УДЗЕЛЬНІЦЫ)

*Паўстагодзьдзя, што мінула ад Сабору ў Канстанцы, пакінула нямала асягненьняў у дзейнасьці адроджанае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, але й забрала назаўсёды ўжо амаль усіх удзельнікаў гэтае гістарычнае падзеі.*

*Нажаль ніводзін зь іх не пакінуў па сабе пісаных успамінаў і нам сёньня ўжо цяжка, а пазьнейшым пакаленьням будзе яшчэ цяжэй уявіць, як гэты зьезд беларускіх праваслаўных вернікаў адбываўся.*

*На шчасьце сярод вернікаў нашае бруклінскае парахвіі час захаваў яшчэ адну удзельніцу Сабору, сп-ню Ганну Войтанка, якую мы й папрасілі падзяліцца з намі ўспамінамі аб гэтай слаўнай падзеі, ды запісаўшы ейныя згад прапануем яго чытачам:*

"Падрыхтоўку да Сабору ў Канстанцы вёў сьв. пам. др. Віктар Войтанка, зь ягоным бацькам а. Сьцяпанам і маім мужам Мікалаям Войтанкам.

Жылі мы тады ў мястэчку Заўльгаў, што ў паўдзённай нямецкай правінцыі Вюртэмбэрг, якую ў 1948-м годзе ахоплівала французская акупацыйная зона.

Дзеля пасьляваенных абмежаньняў падрыхтоўка ахапіла толькі гэтую зону, а зь беларускімі арганізацыямі й асяродкамі ў іншых частках Нямеччыны ўтрымоўвалася лістоўная ды зрэдку асабовая лучнасьць.

Падрабязнасьці падрыхтоўкі я мала ведаю, бо была зайнятая сямейнымі справамі ды да апошняе амаль хвіліны нават ня зьбіралася на Сабор ехаць.

Весткі аб тым, што ён мае адбыцца, дайшлі, аднак, да ворагаў аўтакефаліі, на чале зь япіскапамі-зраднікамі й на а. Сьцяпана праз аднаго зрасейшчанага сьвятара быў зроблены моцны націск ад гэтае справы адрачыся.

Не зважаючы на гэты націск а. Сьцяпан Войтанка зь ягонымі сынамі справы не пакінуў і ўрэшт на дзень памяці Сьв. Еўфрасіньні Полацкае, 5-га чырвеня 1948-га году, была вызначаная дата скліканьня Сабору, ды склад ягоных удзельнікаў.

Нажаль, у апошнюю хвіліну гэты склад зьмяніўся й паменшаў, бо некаторыя з удзельнікаў не змаглі прыбыць, а дзе-каторых заступіў хто іншы.

Гэткім чынам замест захварэлае матухны Філямэны Войтанка на Сабор нечакана паехала я.

З Заўльгаў мы выяхалі цягнікам на раніцы 4-га чырвеня й даехаўшы да Фрыдрыхсгафэну пераселі на пасажырскі паром, што праз Бодэнскае возера давёз нас да Канстанцы, на самай мяжы йз Швайцарыяй.

Даўні й непашкоджаны ў вайну гэты невялікі горад знаходзіцца ў казачнай ваколіцы й праз кароткі час, што давялося ў ім быць, мы не маглі надзівавацца зь ягонага нязвычайнага прыгаства.

З прыстані мы накіраваліся ў царкву, у якой служыў сьв. пам. архіяпіскап Сяргей, дзе сустрэліся з удзельнікамі Сабору зь беларускіх асяродкаў у Бібэраху, Эгінгэне й іншых мейсцах, ды з духавенствам.

З усіх удзельнікаў, апрача а. Сьцяпана й Віктара, ды Мікалая Войтанкаў, у памяці, нажаль, захаваліся толькі ймёны Мікалая Дзямідава, Янкі Чыжыка, Ніла Краўцэвіча, Любы Корчык і Марыі Попка.

Быў і назіральнік з боку непрыяцеляў аўтакефаліі, называць якога тут ня варта.

Ня ведаю да якога веравызнаньня належала царква, што ў ёй служыў уладыка Сяргей, але ў сярэдзіне яна ўжо была пераўладжаная на праваслаўную сьвятыню зь іканастасам, амвонам і клірасамі.

Парадак у царкве утрымоўвалі дзьве старэнькія праваслаўныя манашкі.

Увечары, у гэты-ж самы дзень, што мы прыехалі, ўладыка Сяргей з духавенствам адправіў вячорню.

Пасьля вячорні мы накіраваліся на вячэру й начлег у недалёкую гасьцёўню.

Раніцай у нядзелю, 5-га чырвеня, пачалася Сьв. Літургія, якую правіў ўладыка Сяргей з пратапрасьвітэрам Ананіям Сагайдакіўскім і яшчэ пару сьвятарамі з УАПЦ, ды з а. Сьцяпанам Войтанкам з БАПЦ.

Хорам, найбольш з удзельнікаў Сабору, кіраваў сп. Янка Чыжык, ён таксама чытаў апостала.

Запамяталася, што ўладыка Сяргей меў вельмі высокі тэнаравы голас, а ведамы прапаведнік а. Сагайдакіўскі сказаў так праймальную пропаведзь, што прысутным набеглі на вочы сьлёзы.

Пасьля Сьв. Літургіі й прынагоднага малебну духавенства й сьвецкія ўдзельнікі Сабору накіраваліся ў невялікую, не магу ўспомніць, дзе яна была, зальку ў асобным будынку на полудзень.

Усьлед за пачастункам у той-жа зальцы пачалося паседжаньне Сабору, што прыйняў пастанову аб узнаўленьні дзейнасьці БАПЦ.

Як адбывалася паседжаньне мне цяпер ужо цяжка ўспомніць, але ягоная пастанова была прыйнятая з радасьцяй і ўдзельнікі Сабору разьехаліся ў узьнятым настроі, ды з навагай працаваць на дабро роднае Царквы й свайго Народу.

Працаваць, аднак, ня было лёгка, бо ворагі адразу ўзьняліся задушыць кволы парасток аўтакефаліі.

Як заўсёды ў нас, зь імі ў адну дудку зайгралі й нашыя памагатыя чужой справе, друкуючы ў іхным бюлетэні паклёпны артыкул на др. Віктара Войтанка.

Горш за гэта была, аднак, помста расейскіх манархістаў, што з дазволу французскіх уладаў загадвалі разьмеркаваньнем харчовых прадуктаў і самавольна счыркнулі ўсіх Войтанкаў са сьпіску.

Хоць гэтую бяду, перапісваючыся, як былыя польскія грамадзяне на польскую квоту, удалося адхіліць, тыя-ж расейскія чорнасоценцы, каб не дапусьціць да нашага выезду ў Амэрыку, зрабілі перад эміграцыйнымі ўладамі на нас паклёп.

Бог паспрыяў, аднак, пераадолець і гэты напад, ды яшчэ папрацаваць на дабро БАПЦ й Беларусі".

*Мы дзякуем сп-ні Войтанка за ўспамін і жадаем ёй шмат год здаровай памагаць нашай Царкве й Народу.*

## У ВАЛІЙСКАЙ МІСЫІ БАПЦ

Поўны энэргіі й дзейны кіраўнік Місыі БАПЦ у Валіі а. ігумен Дэньёл, дзякуючы ягоным шырокім знаёмствам і сувязям у царкоўных колах розных веравызнаньняў у Вялікай Брытаніі й вонках яе, амаль што-году наведвае ўсё іншыя хрысьціянскія краі ды цэрквы, асабліва праваслаўныя, па ўсім сьвеце.

Сёлета, у жнівені, яму пашчасьціла пабыць у Румыніі ды пазнаёміцца зь дзейнасьцяй Румынскае Праваслаўнае Царквы, і з жыцьцём ейнага духавенства ды вернікаў.

Працягам побыту ў Румыніі а. ігумен Дэньёл прысутнічаў, або браў удзел у адправах пры шматтысячных, няраз, зборах вернікаў ды пры нагодах пашыраў весткі праз БАПЦ й Ейную Місыю ў Валіі.

Вярнуўшыся з падарожжа а. ігумен Дэньёл узяўся за заканчэньне фармальнасьцяў куплі будынку былое англіканскае царквы й за ейнае пераўладжаньне на парахвіяльную сьвятыню

У пляне гэтага пераўладжаньня а. ігумен Дэньёл мае намер запрасіць для ўпрыгожаньня іканастасу ведамага іканапісца з аднае з праваслаўных краінаў.

Тымчасам, аднак, ужо пачалася ды йдзе кампанія збору фондаў на куплю й пераўладжаньне прышлае парахвіяльнае царквы. у якой мы ўпрашаем ігумену Дэньёлу й вернікам Валійскае Місыі БАПЦ Божае дапамогі й шчодрасьці іхных прыхільнікаў.

## ЗЛУЧАНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў ВАШЫНГТОНЕ

Патрэба азнаямленьня зацікаўленых беларускімі справамі амэрыканскіх урадавых дзейнікаў з абмежаньнем рэлігійнае свабоды, у тым ліку й з забаронай Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Рэспубліцы Беларусь, а таксама з далейшымі гэнам парушэньнямі людзкіх правоў ды іншыя актуальныя пытаньні былі прычынай, зь якое злучаная беларуская дэлегацыя 26-га чырвеня г.г. наведала Вашынгтон.

У склад дэлегацыі ўваходзілі: ад Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы - а. архімандрыт Аляксей Драздоўскі, ад Беларускага Народнага Фронту - сп. Сяргей Навумчык ды ад Ньёркскага Адзьдзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня - сп. Віталь Зайка.

Дэлегацыя сьпярша наведала Дзяржаўны Дэпартамэнт, дзе сустрэлася з прадстаўніцай Бюра Дэмакрацыі, Людзкіх Правоў і Працы сп-няй Вэнды Сылвэрмэн ды йз сп-м Дэйнелам Тэрнбулам з заходня славянскага офісу, які загадвае беларускімі справамі.

Варта ўспомніць, што шэфам Бюра Дэмакрацыі, Людзкіх Правоў і Працы ёсьць памочнік дзяржаўнага сакратара сп. Джон Шаток, які разам з гэтым займае й мейсца старшыні Парайнага Камітэту ў Справах Рэлігійнае Свабоды вонках ЗША, што летась быў створаны прэзыдэнтам Б. Клінтанам.

Гутарка йз сп-няй Сылвэрмэн і сп-м Тэрнбулам пачалася з таго, што а. архімандрыт Аляксей уручыў ім ліст і іншыя дакумэнты, што датычылі гісторыі й сучаснае дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Далей а. архімандрыт Аляксей абрысаваў цяперашнюю рэлігійную сытуацыю ў Беларусі, дзе адступная ад явангяльскіх наказаў і скарумпаваная чужынская царква, у хаўрусе з таталітарнай дзяржаўнай уладай, далей трымае манаполь на адкрытую практыку рэлігійных патрэбаў праваслаўнага насельніцтва Беларусі, у той час, як родная Беларускаму Народу й накіраваная на ягонае духовае адраджэньне Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква знаходзіцца пад забаронай, а нават і прасьледуецца.

За прыклад гэткага прасьледаваньня а. архімандрыт прадставіў справу газэты "Наша Ніва", што толькі за зьмяшчэньне ў 1997-м годзе вялікоднага прывітаньня Першагерарха БАПЦ Я.М. Мітрапаліта Ізяслава апынулася пад афіцыйнай пагрозай ад галоўнага пракурора Рэспублікі Беларусь зачыніць выданьне.

Наступна сп. Сяргей Навумчык апісаў узмоцненыя захады, як напр. ліквідацыю беларускіх школаў, якія лукашэнкаўскі рэжым робіць з мэтай зьнішчэньня беларускае мовы, літаратуры й культуры.

Далей ён закрануў пагвалтаваньні людзкіх правоў цяперашняй дзяржаўнай уладай Рэспублікі Беларусь, што выяўляюцца нятолькі ў бясправных абмежаньнях і забаронах у гэтай галіне, але й у брутальным абыходжаньні паліцыі з абвінавачанымі нават за ўжываньне беларускае мовы грамадзянамі ды арыштах за найменшую крытыку рэжыму.

Сп. Навумчык яшчэ зь непакоям згадаў рост у Беларусі распальваных з Расеі фашысцкіх і антысэміцкіх настрояў, што карыстаюцца падтрымкай шматлікіх афіцыйных дзейнікаў.

Урэшце сп. Віталь Зайка зьвярнуў увагу прадстаўнікоў Дзяржаўнага Дэпартаманту на выпадкі адмовы іміграцыйным урадам палітычнага азылю беларускім грамадзянам з прычыны, быццам, паправы апошнім часам палітычнае сытуацыі ў Беларусі.

Сп. Зайка спытаў яшчэ, ці можна было-б што-колечы зрабіць, каб візы для беларусаў, якім беларускія арганізацыі ў ЗША высылаюць запросіны на ўрачыстасьці ды іншыя патрэбы, сталі больш даступнымі.

На абодвы пытаньні сп. Зайка быў адказ, што ў выпадках, калі справа азылю, або візы будзе з належным абгрунтаваньнем прадстаўленая Дзяржаўнаму Дэпартаманту, можна спадзявацца на дапамогу.

Што да царкоўнае й палітычнае сытуацыі ў Беларусі, дык прадстаўнікі Дзяржаўнага Дэпартаманту былі ўдзячныя за атрыманыя ад нашае дэлегацыі інфармацыі, прасілі трымаць іх у курсе справаў і выказалі спадзяваньне, што ў будучыні адбудуцца далейшыя сустрэчы.

З свайго боку нашая дэлегацыя выказала прадстаўнікам Дзяржаўнага Дэпартаманту падзяку за ўважлівае прыймо.

Перад выхадам з будынку Дзяржаўнага Дэпартаманту нашай дэлегацыі пашчасьціла яшчэ сустрэцца з амбасадарам ЗША ў Беларусі сп. Дэйнелам В. Спэкардам, што пасьля нядаўняе канфіскацыі лукашэнкаўскім рэжымам дыпляматычных рэзыдэнцыяў, быў адкліканы ў Вашынгтон.

Сп. Спэкард быў рады пазнаёміцца з нашай дэлегацыяй, з удзячнасьцяй прыйняў прывітаньні й словы ейных сяброў, ды абяцаў пераказаць іх прэзыдэнту Білу Клінтану.

Пасьля гэтага дэлегацыя накіравалася ў Злучаную Кангрэсавую Камісыю Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе (Гэльсінкская Камісыя), што знаходзіцца ў адным з будынкаў Кангрэсу ЗША.

Гэнам адбылася сустрэча йз старшэйшым райнікам Камісыі сп. Уэйн Мэры, ейным сталым райнікам сп. Арэстам Дзейчакіўскім ды з райніцай у справах свабоды рэлігіі сп-няй Кэрэн С. Лорд.

Падчас сустрэчы з райнікамі Гэльсінкскае Камісыі сябры нашае дэлегацыі прадставілі сучасную рэлігійную й палітычную сытуацыю ў Беларусі, сустракаючы пры гэтым зацікаўленьне й спагадлівасьць.

Пасьля далейшае размовы на закранутыя тэмы, райнікі Гэльсінкскае Камісыі прасілі сяброў дэлегацыі дасылаць ім інфармацыі аб усіх здарэньнях і зьменах у рэлігійнай і палітычнай сытуацыі ў Беларусі, ды абяцалі трымаць лучнасьць.

На гэтым візыта злучанае беларускае дэлегацыі ў Вашынгтоне скончылася.

Яна нятолькі адсьвяжыла ўвагу амэрыканскіх урадавых дзейнікаў да беларускае справы, але й прадставіла ім праўду, што ўзнаўленьне Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Беларусі ёсьць неабходнай умовай пабудовы беларускае дзяржаўнасьці й дэмакрацыі ў ёй.

## ЗАКОН ЗША АБ РЭЛІГІЙНЫХ ПРАСЬЛЕДАВАНЬНЯХ

На дамаганьні явангялісцкіх веравызнаньняў летась прэзыдэнт Клінтан стварыў пад старшынствам шэфа Бюра Дэмакрацыі, Людзкіх Правоў і Працы Дзяржаўнага Дэпартаманту Джона Шаттака Парайны Камітэт у Справах Свабоды Рэлігіі ў Замежжы, у які увайшлі герархі й духаўнікі розных цэркваў, ды ведамыя абаронцы прасьледаваных за веру.

Сёлета Кангрэс ЗША ухваліў і прэзыдэнт Клінтан падпісаў закон, што дае права прэзыдэнту ўжываць дыпляматычныя й эканамічныя санкцыі ў дачыненьні да тых рэжымаў, што ўціскаюць іхных грамадзянаў за веру.

Неадкладнае заданьне Парайнага Камітэту й мэта закону заступіцца за хрысьціянскіх вернікаў у камуністычных і мусульманскіх краёх.

Аднак і абмежаньні, ды ўціск хрысьціянаў хрысьціянамі, як гэта мае мейсца ў Беларусі й Расеі, не застаюцца бяз увагі ды вонках магчымасьці санкцыяў.

## БІЗАНТЫЯ Й БЕЛАРУСЬ

Спадчына Бізантыі - складаная й шматбаковая рэч.

Усе мы ведаем веліч і славу бізантыйцаў - айцоў праваслаўнае царквы, духовую сілу й прыгажосьць літургіі Яна Залатавуснага, эмацыянальнае ўзьдзеяньне мазаікаў, абразоў і фрэскаў, што захаваліся праз стагодзьдзі, узносячых душу лініяў і прапорцыяў Сьвятое Сафіі ў Канстантынопалі.

Разам з гэтым ня ўсё тое, што спарадзіла вялікая бізантыйская, ці шырэй - элінская міжземнаморская цывілізацыя, было аднолькава каштоўнае й вартае пераймаць.

Менш бо ведама, што поруч з Кодэксам Юстыньяна й творамі Канстантына Парфірароднага йснавалі, - як між іншага, і шмат дзе яшчэ ў тыя часы, - і неасьветленая самаўладнасьць выпадковых імпэратараў-базылеўсаў, і сьляпая сіла натоўпу-охласу, і скарумпаванасьць ды бяздушнасьць чынавенства, што прымушалі царкву йсьці супраць асноўных прынцыпаў, дадзеных Хрыстом -Збаўцом. Колькі царкоўных людзей - сьвятароў, манахаў - было зацікаўленых і зайнятых у цывільных справах, больш як у духовых. Былі й зусім няпрывабныя рэчы, як гомасэксуалізм, або інстытут яўнухаў, што бізантыйскім грамадзтвам успрыймаліся нармальна.

Землі й народы, што падпалі пад узьдзеяньне бізантыйскае царквы й культуры, ня ўспрыймалі ўсе іхныя рысы аднолькава й адначасова. Гэтая адрознасьць успрыйняцьця й пераасэнсаваньня бізантыйскае спадчыны сфармавала адмысловыя рысы ўсходняхрысьціянскіх цэркваў і краёў, адзін зь якіх нашая Беларусь.

Ад самага пачатку на сёньняшніх беларускіх землях пачалі разьвівацца найлепшыя традыцыі бізантыйскае культуры - богаведа, тварэньне абразоў і фрэскаў, архітэктура, летапісаньне, юрыдычная думка. Тады-ж узьнікла і здольнасьць інтэграваць і негвалтоўна пераўвасабляць разнастайныя культурныя й рэлігійныя ўплывы, дэмакратызм, павага ды цікавасьць да асобы як узору Божае стваральнасьці. Варта згадаць толькі школу рыторыкі, найвыбітнейшым прадстаўніком якое быў Сьв. Кірыла Тураўскі.

Ужо з тае пары йснуе й славутая талерантнасьць, не як пасыўная абыякавасьць, але як стваральны сынтэз унёскаў розных культураў, што ня перамешваючыся, прыязна суіснавалі на Беларусі, калі варожасьць штучна не правакавалася вонкавымі сіламі. Культурна-рэлігійная стваральнасьць Беларусі была заўсёды асноўнай, пераважнай рысай, у адрозьненьні, напрыклад ад Расеі, дзе ўсходня-дэспатычныя традыцыі Арды й аўтарытарныя рысы спадчыны Бізантыі выціскалі стваральнае, духова незалежнае расейскае сьвятарства на маргінэс рэлігійна-культурнага жыцьця.

Закасьцянеласьць і абсалютная інэрцыя маскоўскага праваслаўя, якія шмат хто сёньня ўважае амаль за найвышэйшае асягненьне, адчувалі зрухі толькі праз умяшаньні дзяржаўнае ўлады, што цалком падпарадкавала сабе царкву. Гэтая-ж маскоўская дзяржава, што перайняла палітычны й сацыяльны таталітарызм Арды, неўзабаве перанясла яго й на рэлігійную сфэру, якую нават Арда пакідала па-за ейным уплывам, довадам чаго ёсьць вызнаньне татарамі нікейскага імпэратара, а ня хана ў Каракоруме, за галаву расейскае царквы, усталяваньне ўжо ў 1260-м годзе ўпрывілеяванага становішча сьвятарства ды некранальнасьць царкоўнае маёмасьці

Большая адкрытасьць Беларусі сьвету, цікавасьць да новых ідэяў і праяваў духовасьці падтрымлівалі высокі ўзровень, як сёньня кажуць, прафэсыйнага ўзроўню сьвятарства, добра абазнанага ў пытаньнях царкоўных канонаў і права, граматыцы царкоўна-славянскае мовы, апошніх асягненьнях багаведнае думкі. Гэта фармавала, у сваю чаргу, моцны ўплыў на памежныя землі, што пазьней падпалі пад уладу Масквы - Пскоўшчыну, Цьвершчыну, Наўгародчыну. Сьвятары зь Беларусі былі ахвотна запрашаныя на парахвіі, станавіліся летапісцамі й супрацоўнікамі княжацкіх канцылярыяў.

Беларускія ўплывы, адлюстраваньне беларускага (тут г.зн. з пазыцыі нашае тагачаснае дзяржавы - Вялікага Княства Літоўскага) пункту гледжаньня на падзеі прасочваюцца нават у маскоўскіх летапісах - Траецкім ды Серапіёнаўскім. Найбольш яскрава моц беларускіх уплываў адбілася ў дзейнасьці маскоўскага мітрапаліта Кіпрыяна, што заклікаў да арыентацыі на "заходнярускую" царкоўную арганізацыю, ухваляў дзейнасьць сьвятароў із Полацкае й Тураўскае япархіяў, за што быў выдалены маскоўскім князям за мяжу, у Кіяў.

Цікавым прыкладам пераўвасабленьня бізантыйскага ўплыву ёсьць канцэпт "Трэйцяга Рыму". Як ведама, бізантыйцы лічылі сябе "Другім Рымам" і нават мелі адпаведны сабе назоў - рамеі.

Калі Бізантыя заняпала, пачалося змаганьне за права звацца "Трэйцім Рымам" - у розны час на гэта замахваліся й Тырнава, сталіца Баўгарскага княства, ды Цьвер і Цьверскае княства, калі тое дужалася з Масквою за дамінацыю на паўночна-усходніх славянскіх землях. Гэтае прэтэндаваньне нават было адпаведна абгрунтаванае ў "Хроніцы Манасіі" й Цьверскім летапісным зводзе.

У пэўным сэньсе гэтая зьява была выкліканая патрэбамі рэлігійных і палітычных колаў, што чуліся ня надта ўпэўнена, абгрунтаваць свае пазыцыі нятолькі ў вачох навакольных уладароў, але й собскіх.

Таму, калі Масква пачала заваёўваць гэткія-ж, як і яна самая, аўтаномныя княствы, што вызваліліся спад улады Арды, то манах Філафей, што выпрацаваў сфармуляваньне канцэпту "Масква - Трэйці Рым", у значнай ступені скарыстаў і "Хроніку Манасіі, і "Цьверскі летапіс".

Нашая даўняя дзяржава - Вялікае Княства Літоўскае, улічваючы як колькасьць ейных праваслаўных вернікаў, цэркваў і манастыроў, гэтак і ейную дзяржаўна-палітычную моц, мела найбольш правоў лічыць сябе пераемніцай Бізантыі. Аднак дастаткова стабільнае грамадзтва ня мела патрэбы ў тэорыях для собскага абгрунтаваньня, ды й у Эўропе на захад ад Смаленску зьвязваць ягоны дзяржаўны лёс з Канстантынопалям, што ў апошнія стагодзьдзі йснаваньня быццам сьведама йшоў да собскае загубы, лічылася за дрэнную прыкмету. Гэтак Вялікае Княства Літоўскае, а сёньня Беларусь ня стала "Трэйцім Рымам", хоць гістарычна гэта ня было абсалютна вылучанае.

Доля Беларусі, беларускі характар, беларуская гісторыя, вера беларускіх людзей у значной, а можа ў пэўным сэньсе й вырашальнай ступені вызначыліся спадчынай Бізантыі. Нашыя продкі скарысталі яе й пераўвасобілі зусім ня так, як гэта зрабілі іхныя маскоўскія сваякі. Не адмаўляючы сваяцтва, трэба адзначыць, што пасвойму ўспрынятая спадчына Бізантыі зусім не раўнуе, а наадварот, робіць выразна адмысловымі беларусаў і расейцаў, гэтаксама як і сэрбаў, украінцаў, румынаў, ці коптаў. І таму права на сваю собскую царкву, якую мае кожны з вышэй згаданых народаў, мае таксама і беларускі народ.

У 1997-м годзе ў Нью Ёрку адбылася сусьветнага ўзроўню выстава "Веліч Бізантыі". На ёй былі абразы, тканіны, мазаікі, кубкі, кнігі, крыжы, кароны, посуд - створаныя на землях, што ўваходзілі ў бізантыйскую культурную арбіту. Былі там экспанаты з Грэцыі, Расеі, Даніі, Эгіпту, Польшчы, Ізраілю ды дзясятка іншых краінаў. Толькі край, адкуль выйшлі Сьв. Кірыла Тураўскі, Еўфрасіньня Полацкая, дзе была збудаваная Сьвятая Сафія, дзе напісана гэтулькі явангельляў, і

## ПАДРОБЛЕНАЯ ПАМЯТКА Й ІНШЫЯ ПАДМАНЫ

Працягам амаль 8-мі стагодзьдзяў, праз войны й захопніцкія навалы, што пустошылі наш край, створаны з волі Сьв. Еўфрасіньні Полацкае Лазарам Богшам у 1161-м годзе з золата й каштоўных каменьняў шасьцікопцы крыж захоўваўся ў цэласьці на роднай зямлі.

За гэты доўгі час крыж Сьв. Еўфрасіньні Полацкае стаў нашым рэлігійным сымбалям й найдаражэйшай нацыянальнай памяткай.

Бязбожная савецкая ўлада забрала яго, аднак, з полацкае сьвятыні ды замкнула ў магілёўскім музэі.

Адтуль улетку 1941-га году разам зь іншымі каштоўнасьцямі, уцякаючы ад нямецкага наступу, савецкае чынавенства забрала яго й павязло ў бок Масквы.

Пасьля вайны сьлед Сьв. Еўфрасіняўскага крыжа й слых па ім сьпярша прапаў, а пасьля, із спраўнае на падман савецкае рукі, пачаў паказваць на захад.

Пэўна-ж, на абцяжаную ўжо вагу нацысцкіх злачынстваў лёгка было падкінуць яшчэ адно злодзейства, а ненасытных капіталістаў яшчэ лягчэй зьвінаваціць у куплі зрабаванага скарбу.

Гэтым сьледам і блукалі прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь, пасьля абвешчаньня ейнае незалежнасьці, дарэмна апытваючы весткі праз нашую нацыянальную памятку сярод амэрыканскіх багацеяў.

Шыла, аднак, век у мяшку ня ўтоіш і, пасьля дарэмных пошукаў за гарамі й марамі, зьявіліся довады, што Сьв. Еўфрасіняўскі крыж ня дзе інш, а куды быў павезены, там, г.зн. у Маскве й знаходзіцца.

Гэтта й сталася, ці хутчэй было сфабрыкаванае, яшчэ адно йз свомых бадай што толькі нашай гісторыі дзіваў.

Замест бо агаласіць праўду й дамагацца, ды дамагчыся, каб прысабечнік вярнуў наш забраны скарб, у нас зьявіліся, не бяз заахвочаньня, пэўна-ж, з усходу, прапановы паставіць на гэтай справе крыж.

Дакладней кажучы, не паставіць, але, каб не ўгнявіць праўдай "старэйшага брата" ды задаволіць беларускае грамадзтва, зрабіць рэпліку, ці копію Сьв. Еўфрасіняўскага крыжа, ведама-ж, беларускім коштам.

Як ужо неаднойчы раней у нашай мінуласьці й гэтым разам знайшлося нямала шчырых і няшчырых адвакатаў карыснае ня нам, а забрацкаму суседу, справы ды курс на падробку пайшоў поўнай парай

Пачалося сьпешнае зьбіраньне фондаў, пачынаючы йз свойскіх бізнэсмэнаў удома й за мяжою, ды канчаючы ўдовімі грашамі йз абадранага краю.

Знайшоўся й майстар выканаць падробную работу ды, ведама, пасаджаны на наш карак Масквою "архіінтэграрх" - мітрапаліт Філарэт адразу-ж схапіўся справу й ейны твор "благословить".

Не знайшлося, нажаль, нікога ў краі, ані ў дыяспары, каб гэтую задуму "**паблага**словіць". або, інакш кажучы, выявіць празь яе праўду.

Гэтак, як і было заплянавана, ведама-ж не ў Беларусі, уся мітусьня скончылася славатою мітрапаліту Філарэту й Расейскай Праваслаўнай Царкве, а па запраўдным Сьв. Еўфрасіняўскім крыжы пайшлі канцы ў воду.

Коратка кажучы, неўпярша мы апынуліся ў дурнях.

Калі-ж ужо пайшла гутарка праз тую няпершыню, што нас абувалі ў лапці, дык успомнім такое:

Праз шэсьць стагодзьдзяў пасьля хросту нашых пра ...пра...прадзядаў яны былі праваслаўныя й Праваслаўная Вера, ды Царква былі крыніцаю духовае сілы, што ўмацоўвала іхную трывалкасьць у абароне дзяржаўных межаў, а разам і рухавіком іхных імкненьняў, які іх штурхаў да ўлучэньня ў гэтыя межы сваяцкіх плямёнаў ды да стварэньня наймагутнае тады дзяржавы на славянскіх землях - Вялікага Княства Літоўскага.

Не пасьпела, аднак, нашая даўняя дзяржава яшчэ даволі ўмацавацца, як ейны галава павёў яе на інтэграцыю з захопнай Польшчай, за што адразу заплаціў паніжэньнем Праваслаўя ў горшую за каталіцтва веру.

Із стваральнага размаху Вялікае Княства Літоўскае яшчэ нейкі час здавалася йснаваць у ягонай папярэдняй сіле, але з прышчамленьнем праваслаўнае царквы ды з заменай літоўскіх дзяржаўных інтарэсаў папскімі й польскімі, яно пачало станавіцца, хоць і ганарыстай, ды, усё-ж, уцуглянай правінцыяй польскае імпэрыі.

Каб гэтае-ж уцугляньне абярнуць у канчатковае пярэхрыства й палянізацыю з папскага загаду фанатычна каталіцкая Польшча наважыла зусім зьнішчыць Праваслаўную Царкву ў Літве й Украіне.

Дзеля гэтае мэты, пры дапамозе здрадных праваслаўных япіскапаў, у 1596-м годзе й была зарганізаваная г.зв. царкоўная вунія, або схаваны за праваслаўнымі абрадамі другое клясы каталіцкі касьцёл.

Незапярэчныя факты сьветчаць, што ейнае ўжыцьцяўленьне адбывалася пад прымусам, а нярэдка й з гвалтам, ад чаго насельніцтва раскалолася на варожыя адна да аднае, а ў выпадку пакрыўджаных, і да свае дзяржавы часткі.

З тае пары, апрача паслабы дзяржаўнае магутнасьці злучанага літоўска-польскага гаспадарства, пачаўся й культурны, ды гаспадарчы заняпад Вялікага Княства Літоўскага, адною зь першых пазнакаў якога была забарона беларускае мовы ў афіцыйным справаводзтве.

Не зважаючы на ўсю гэтую ведамую гісторыю, у нас апошнім часам зьявіліся абаронцы й хваласьпеўцы двох стагодзьдзяў вуніі на нашых землях, што выдаюць тую пару амаль за залаты век у нашай веры й культуры, ды ўвіхаюцца працуючы на наварат у гэтую ўводную ў рымскае каталіцтва веру ўсяго беларускага народу.

Толькі ня кажуць яны, што замест абяцаных ім ды імі беларускае дзяржаўнае незалежнасьці й новага залатога веку беларускае культуры, наварат у вуніяцтва, як і ў мінуласьці, падпарадкуе нашыя нацыянальныя інтарэсы глабальным інтарэсам Ватыкану й мацнейшых перад ім нашых рымска-каталіцкіх суседзяў, ад чаго наш народ няўхільна ўзноў падзеліцца на варожыя сабе, ды роднай дзяржаве часткі.

Прамоўчваецца яшчэ й факт, што недалёкім вынікам неразумнага ўводжаньня вуніяцтва было ўмяшаньне ў нутраныя справы літоўска-польскае дзяржавы Масквы ды падпарадкаваньне ёй у 1687-м годзе Праваслаўнае Царквы на сёньняшніх беларускіх і ўкраінскіх землях.

Гэтае падпарадкаваньне, замест юрысдыкцыйнае зьмены, папраўдзе было усходняй вуніяй, бо маскоўская ўстанова, што выдавала сябе за праваслаўную царкву, ня была ёю, а дзяржаўным дэпартамантам з асочнымі й імпэрыяльнымі ідэялягічна-прапагандысцкімі заданьнямі.

Гэтымі заданьнямі, а ня рэлігійнымі мэтамі гэтая ўстанова кіруецца й цяпер, што, ня гледзячы на абрадавую й адзеньнявую тойсамасьць, робіць яе анты-

## БІЗАНТЫЯ Й БЕЛАРУСЬ

(ЗАКАНЧЭНЬНЕ З 11-е БАЧ.)

гэтулькі разоў літургія Сьв. Яна Залатавуснага ўзносілася да неба - гэты край ня прыслаў ніводнага чарапка, ніводнага аркуша старажытнае кнігі.

Адабраная й зьнішчаная спадчына нашае веры дае знаць аб сабе й сёньня - у тым сэньсе, што на мейсца ейных зрабаваных багацьцяў нам хочуць увапхнуць падробленыя пярліны хвальшывае царкоўнае гісторыі, чужую мову, чужыя звычаі. Каб спыніць гэта, мы мусім вяртацца да сваіх каранёў, ведаць і шанаваць іх.

В. Зайка

тэзай Праваслаўнае Царквы В. Княства Літоўскага.

Затое Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква якраз і ёсьць пераймальніцай, ды прадоўжвальніцай непадуладных сьвецкім дзейнікам, а патрыятычных царкоўных традыцыяў, што скаліся на нашых землях у пару даўняе дзяржаўнасьці.

З пачаткам беларускага адраджэньня тыя даўнія краёвыя традыцыі ўзбагаціліся яшчэ й новымі элемэнтамі, а гэта перш за ўсё навагай на ўжываньне роднае мовы ў адправах ды імкненьнем да незалежнага ад якіх-колечы вонкавых дзейнікаў існаваньня.

Усё гэта, як ня ведама, дык павінна было-б быць ведама беларускаму адраджэнскаму актыву, калі ён запраўды імкнецца да здабыцьця незалежнасьці, а не палюе на карысьці сабе з гэтае справы.

Факты, нажаль, паказваюць на штосьці іншае, а гэта, або на суцэльную абыякавасьць да рэлігійнага жыцьця нашага краю, або на ўпорыстыя спробы аддаць гэтае жыцьцё пад кантроль замежных цэркваў, або й сэктаў.

Паколькі-ж Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў гэтым гандлі замінае, Яе караюць інфармацыйным байкотам, ды падтрыманьнем усялякіх варожых інтрыгаў на Ейную шкоду.

Гледзячы, як Лукашэнка ў хаўрусе з маскоўскай нязьменна жандарскаю царквою духова аблытвае наш народ, набягае думка, ці не карае нас Бог, адбіраючы тым, што становяцца быць нашымі павадырамі, розум?

Калі-ж ужо найшла думка праз адабраны Богам розум, дык згадваецца й баліць яшчэ такое:

Амаль праз 500 год мы мелі збудаваную й бароненую крывёй, ды потам нашых, і толькі нашых, а ня суседзкіх прапрадзядаў нашую магутную й слаўную дзяржаву - Вялікае Княства Літоўскае.

Гэтая дзяржава была слаўная не адной збройнай сілай, але й ейнымі культурнымі асягненьнямі, ды заснаваным на хрысьціянскім праве ладам жыцьця.

Праз усе пяць стагодзьдзяў існаваньня гэтае дзяржавы ды нават колькі часу пасьля ейнага ўпаду нашыя прадзяды называлі сябе ліцьвінамі, а наш край Літвою й гэтак іх ведалі, ды шанавалі блізка й далёка.

Толькі ў XVII-м стагодзьдзі на падмацаваньне захопніцкіх намераў маскоўскі патрыярх Філарэт выдумаў на нас мянушку "белоруссцы", а цар Аляксей Міхайлавіч пачаў зваць сябе ўладаром "Белыя Русі".

Тымчасам нашыя магнаты й шляхта, каб перасягнуць маскоўскія прэтэнзыі на ролю "Трэйцяга Рыму", здумалі й сабе казку аб іхным паходжаньні ад рымскага князя Палімона, што ўцякаючы ад загібелі Рыму быццам прыплыў зь ягонымі паплечнікамі й асяліўся ў Жамойці.

Гэтая казка праз жамойцкае, або, інакш, балцкае паходжаньне Літвы была вельмі на руку як польскім, гэтак і маскоўскім імпэрыялістам ды асымілятарам, бо адсякала "белоруссцев" ад іхнае слаўнае мінуласьці, ды псыхалягічна рабіла іх меншвартасным плямём.

Затое жамойды выраслі ў расава вышэйшы завод "супэрмэнаў", а з гэтым ростам бязь меры буйнелі, падтрымліваныя з захаду й усходу, іхныя прэтэнзыі на літоўскую спадчыну.

Гэтага жамойцкага "супэрмэнства" спалохаліся, ці ў яго паверылі, і нашыя адраджэнцы ў XIX-м стагодзьдзі, ды, замест адваяваць сваё, схапіліся за падсунутую ворагамі пятлю беларускасьці.

З тае й пары, як не намагаемся стаць на ногі, мы адно больш зашморгваем тую хітрую пятлю, бо, папраўдзе, хто схоча быць нясуцэльным "русским", калі ім, або кім іншым бяз злучка ў назове стаць куды выгадней.

А запрапануй хто ў нас вяртацца да літоўскіх каранёў, дык яго за дурня возьмуць й высьмяюць, хоць і ў самых сьмяхуноў на розум не багата.

Б. Шчарыч

## ПСАЛЬМ 89

Гаспадару!
Ты сховам быў нам ўва ўсе поры
Й праз пакаленьняў ўсіх чароды,
Бо перш як з роўні ўсталі горы
Ды нат зьявіўся сьвет зь зямлёю
Ты быў і будзеш назаўсёды.

Ты ўсіх нас сьцерці дуж у порахнь:
"З чаго пайшлі, тым станьце!" моўшы,
Табе йз днём тысяч лет упораўнь,
Былі, бы ўчора, ды прапалі,
Як зьмена варты ў ноч зыйшоўшы.

Бы ўраньні сон людзей зьмятаеш,
Няйнакш яны раўня травіне,
Зь ўідном што ўзыйдзе ды ўзбуяе,
А цьвет на дзень пусьціўшы
Ўвечар зьвяне ўжо й загіне.

Ад гневу й мы Твайго згараем
Ды лякацім бясконца ў спудзе,
Бо ўсяк наш блуд Табе на яве
Ды за яго з нас плату возьмеш
Ты на Тваім нязмыльным судзе.

Праз Твой нам гнеў і век кароткі,
Жыцьцё як подых ўраз мінае:
Ледзь сем дзясяткаў лет удоўжкі,
А восем тым, здароў хто й дужы,
Парою жыць адно здарае.

А йдуць яны ў цягле ды болю,
Зьлятаюць хутка й сьлед наш гіне;
Ці ёсьць такі, хто ўцяміць-б здолеў
Усю Твайго ўзлаваньня дужасьць
Й Твайго разьятра вялічыню?

Навучы цаніць дзён нашых меру
И з тае навукі ў сэрцах змудраць.
Гаспадару, дзе кары берагі?
Ці-ж гнеў трываць-ме Твой заўсёды?
Зьлітуўся тым, што Табе служаць!

Яві Тваю нам любасьць зраньня,
Празь дзень каб мы пялі ўзрадна,
Зрабі нам прыйсьць такой прыяннай,
Як быль была бясконц гаротнай,
Калі Ты нас караў няшчадна.

Тваю магутнасьць выяў слугам,
Дай славу ўгледзець іхным дзецям,
Будзь Твой спагад, Гаспадару, нам
На добры посьпех ў нашых справах,
На іх што працу рук прысьвецім.

## СЬВ. МІРА Й ЯГОНАЕ ПРЫГАТАВАНЬНЕ

Сьв. міра гэта адумыслова прыгатаваны алей, памазаньне якім вызнаецца ў Праваслаўнай Царкве за знак падуладнасьці Сьвятому Духу.

З увагі на гэта памазаньне сьв. мірам ёсьць асобным сьвяценьнем (адважваемся на гэтае беларускае слова замест ц. сл. таинство), што зьдзейваецца разам з хрышчэньнем (у каталікоў асобна).

Апрача таго сьв. мірам памазваецца пасад (ц. сл. престол) і сьцены царквы падчас ейнага асьвячэньня, ды антымінсы, калі іх асьвячвае япіскап.

Даўней, калі яшчэ былі царскія каранаваньні, цароў таксама памазвалі сьв. мірам.

Пачатак памазваньня сьв. мірам сягае Веташняга Наказу, аб чым сьветчаць кнігі Сьв. Пісьма, як Быцьцё 35, 14, Выхад 29, 29 ды, асабліва, Выхад 30, 22-25, дзе апісаны склад міра й ягонае ўжываньне.

У пару Новага Наказу дзея памазаньня сьв. мірам выконвалася з раньніх часоў хрысьціянства, праз што кажа напр. сьв. Дзяніс Арэапагіт у ягоным творы "Праз царкоўную герархію".

Калі зь Бізантыі праз Кіяў на нашую Бацькаўшчыну прыйшла Праваслаўная Вера, Кіяўская Мітраполія атрымоўвала сьв. міра з Канстантынопалю.

Аднак, ужо ў XIV-м стагодзьдзі сьв. міра прыгатоўвалі, або, дакладней кажучы, варылі на мейсцы ў самой Кіяўскай Мітраполіі.

Выконвалася гэтая дзея ў Кіява-Пячорнай Лаўры нават пасьля падпарадкаваньня ў 1686-м годзе літоўска (беларуска) - украінскае Праваслаўнае Царквы Маскве, ажно да бальшавіцкае рэвалюцыі ў 1917-м годзе.

Ішла яна амаль дакладна паводле яшчэ Сымонам Салунскім у Канстантынопалі складзенага абраду.

З распадам Савецкага Саюзу й абвешчаньнем незалежнасьці рэспублікамі, што былі ў ягоным складзе, толькі Украіна пачала адбудову свае аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ды гэтым выклікала злосьць імпэрыялістычнае маскоўскае царквы ды ейны праклён на стваральнікаў Кіяўскага Патрыярхату.

У выніку гэтага няхрысьціянскага ўчынку перад Кіяўскім Патрыярхатам зьявілася неабходнасьць забясьпечыць ягоныя патрэбы на сьв. міра.

З гэтай мэтай загадзя пачалося зьбіраньне пахных зёлкаў і алеяў нятолькі на мейсцы, але й з гэткіх замежных краінаў, як Баўгарыя ды Грэцыя.

Усяго разам на прыгатаваньне сьв. міра спатрэбіліся 43 складнікі, якія дзеля незнаёмасьці з батанічнай тэрміналёгіяй і назовамі прамыслова робленых пахнаў нам немагчыма гэтта вылічыць.

Быў запрошаны й знавец абраду варэньня сьв. міра з Баўгарскага Патрыярхату.

Згодна з парадкам абраду варэньне пачалося ў Паклонную перад Крыжам нядзелю замочваньнем зёлкаў на настой у аліўкавым алеі й белым віне.

Раніцай у панядзелак цярпеннага тыдня адумысловыя судзіны зь пералітым у іх зёлкавым настоям былі пастаўленыя на амвоне ўва Уладзімерскім катэдральным Патрыяршым саборы, дзе пасьля ўрачыстага малебну Сьвяцейны Патрыярх Філарэт акрапіў іх і ўсе патрэбныя матарыялы сьвячанаю вадою.

Пасьля гэтага былі запаленыя дзьве пліты йз 40-ка літровымі катламі на іх, у якія была ўлітая патрэбная колькасьць аліўкавага алею й белага віна.

Па 3 гадзіны ў панядзелак і аўторак, ды 8 гадзін у сераду гэтая цеча варылася ў катлах, а каб яна ня прыгарэла, яе, падчас як чыталася Явангельле, бяз спыну памешвалі два сьвятары.

У аўторак у катлы зь цечай быў дададзены прыгатаваны ў Паклонную перад Крыжам нядзелю зёлкавы настой ды ўсыпаны парашок адумысловага ладану.

Нарэшце ў сераду сьв. міра было зваранае й, як пастаяўшы ахалодала, ў яго ў адпаведнай прапорцыі былі ўлітыя пахныя алеі, а тады яно было працэджанае ў глякі (алаваstры) з каштоўнага мэталю.

У Вялікі чацьвер Сьвяцейны Патрыярх Філарэт з духавенствам уняcьлі глякі йз прыгатаваным мірам ў алтар і паставілі іх праваруч ахвярніка, а глячок з даўнейшым сьв. мірам на сам ахвярнік.

Падчас Сьв. Літургіі глячок з даўнім мірам на вялікім уваходзе нясьлі перад сьвятымі дарамі, а ўсьлед за ім ішлі парамі сьвятары, кожная пара трымаючы прыбраны кветкамі гляк з прыгатаваным да асьвячэньня мірам.

Сьвяцейны Патрыярх Філарэт тады ўзяўшы глячок з раней асьвячаным мірам праз райскія дзьверы ўнёс яго й паставіў на пасадзе, а гляκі зь мірам на асьвячэньне сьвятары паставілі абапал пасаду.

Пасьля выгаласу "І няхай будуць ласкі..." пачуўся выгалас "Няхай будзе гэтае міра асьвячанае ў Імя Айца, і Сына, і Сьвятога Духа", ды, дзеля апостальскага пераемства, даўней асьвячанае сьв. міра было далітае ў гляκі йзь мірам, што асьвячалася.

На гэтым асьвячэньне сьв. міра скончылася й Сьв. Літургія пайшла звычайным парадкам да канца.

Пасьля Сьв. Літургіі судзіны йзь сьв. мірам былі перанесеныя ў будынак Патрыярхату на перахаваньне.

Праз прыгаваньне сьв. міра сваімі сіламі й ягонае асьвячэньне собскім першагерархам Кіяўскі Патрыярхат Украінскае Праваслаўнае Царквы зрабіў яшчэ адзін важны крок на шляху да запраўднае аўтакефаліі.

Для нас ён важны тым, што паводле дамоўленасьці з 1997-га году Кіяўскі Патрыярхат УПЦ згодны забясьпечыць сьв. мірам патрэбы Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Паводле Інфармацыйнага Бюлетэню УПЦ
Кіяўскага Патрыярхату

## З КНІЖНАЕ ПАЛІЦЫ

*АНАТОЛЬ АСТАПЕНКА. ХРЫСЬЦІЯНСТВА І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ. (Роздумы і меркаванні). Мінск, 1998. 27 6., 150 ас. Падрыхтавана выдавецкім аддзелам Св. Петра-Паўлаўскага Сабора г. Мінска.*

Аўтар брашуры паставіў перад сабою мэту прааналізаваць паняцьце "нацыяналізм", "нацыянальная ідэя" ў повязі з хрысьціянскай ідэяй. Адпаведна, асноўны зьмест выданьня прысьвечаны дыялектыцы дзьвюх катэгорыяў - нацыянальнага й духовага.

Аўтар прыходзіць да высновы, што "нацыяналізм - гэта змаганьне нацыі за яе волю і незалежнасьць, за яе духоўную і фізычную моц, за права нацыі быць роўнай сярод роўных". Папярэдне заўважым, што гэтыя правільныя й прыгожыя словы ёсьць завяршальным высновам брашуры.

Аргумэнтавана й пасьлядоўна выкладзены разьдзел "Тэорыя стадый", дзе вера ў Бога вызнаецца за найвышэйшую стадыю духовае эвалюцыі чалавека.

Сам аўтар назваў ягоную пазыцыю "рамантычным поглядам на нацыю" й процістаўіў яе лібэральна-дэмакратычнаму погляду, які, цытуем далей, "аддае перавагу матар'яльным каштоўнасьцям пры поўным ігнараваньні нацыянальнае культуры". Гэтая фармулёўка выдаецца нам спрошчанай, бо й сярод беларускага руху ці мала знойдзем прыхільнікаў рацыянальнага нацыяналізму.

На нашую думку, слабасьць і рамантызму, і рацыяналізму палягае ў іхнай няздольнасьці даць адказ на глябальныя пытаньні чалавечага быцьця, ды менавіта таму вера ў вышэйшы розум, рэлігія паўстае як духовая альтэрнатыва. У свой чарод, толькі ў спалучэньні з рэлігіяй нацыянальная ідэя набывае максымальную жыцьцясьцьвярджальную поўнасьць.

Выглядае, вышэй прыведзеная пазыцыя вельмі лягічна дастасоўваецца да чацьвертага разьдзелу брашуры "Абгрунтаваньне нацыянальнае ідэі ў хрысьціянстве", дзе нацыяналізм вызнаецца за Божы дар сусьветнае любові.

У пятым разьдзеле "Нацыяналізм і яго сувязь з праваслаўем і каталіцызмам" шырэй разьвіваецца паняцьце сабornага нацыяналізму - адзінства нацыі ў прасторы й часе.

Наступны разьдзел "Нацыяналізм і пратэстанцтва можа выклікаць пярэчаньні, бо няма тае меры вызначэньня й сумы гістарычных фактаў, каб сьцьвярджаць праз "шырокае распаўсюджаньне кальвінізму" ў сярэднявяковай Беларусі. На нашую думку, калі пратэстантызм на нейкіх этапах гісторыі й зьбліжаўся з нацыянальнай ідэяй якога колечы народу, дык не йз ягонае іманэнтнае сутнасьці, але з мэтай прыстасаваньня да пэўнае рэаліі.

Урэшце, меркаваньне аўтара, што дэвальвацыя пратэстантызму павязаная зь ягоным адмаўленьнем ад

тысячагадовае рэлігійнае спадчыны Усходняе й Заходняе цэркваў, выдаецца слушным і аргумэнтаваным.

Аўтарскае сьцьверджаньне праз быццам свомы беларусам, у адрозьненьне ад заходняэўрапэйскіх народаў, рамантызм і "глыбейшае ўспрыняцьце Сьвятога Пісаньня" лічым дыскусыйным і недастаткова абгрунтаваным.

Заключны разьдзел "Гістарычныя шляхі і будучыня хрысьціянства на Беларусі" вымагае прынцыповае ацэнкі. Перад тым, аднак, заўважым дробныя моўныя ды іншыя памылкі й недакладнасьці, як напр. ужываньне "запаведзь" замест беларускага "запавет", цьверджаньне, што Зыгмунт Серакоўскі быў беларусам, ды іншыя.

Важна падкрэсьліць, што аўтар амаль абмінае славутую гісторыю ўтварэньня ды разьвіцьця Кіяўскае й Літоўскае Мітраполіяў, пэрыяды станаўленьня й росквіту Беларуска-Украінскае царквы ў часы Вялікага Княства Літоўскага. Далей болей, бо аўтар замоўчвае факт ліквідацыі гэтае царквы расейскай імпэрыяй. Гістарычная завязь, паводле аўтара, ня перарываецца.

У апазыцыі да аўтара, аднак, сьцьвердзім, што ад часу анэксыі на нашых землях усталявалася зусім іншая царква, зь іншай ідэалёгіяй, іншым ладам жыцьця, мэтай якое сталася паняволеньне Беларусі, умацаваньне расейскага імпэрыялізму. Гэтая функцыя выконваецца Расейскай Праваслаўнай Царквою да сёньняшняга дня. Дагэтуль адно сіла прарасейскае ўлады не дае магчымасьці ў Беларусі паўстаць сваёй нацыянальнай самаўпраўнай царкве, што заўсёды ўздымалася на пакручастых момантах гісторыі ды сёньня існуе ў арганізаваным стане адно па-за межамі.

А. Астапенка згадвае Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, што існуе за мяжой, закідаючы ёй даўно ведамы аргумэнт "некананічнасьці", якім праз увесь час карыстаюцца ейныя ворагі й нядобразычліўцы з мэтай зганіць і прынізіць.

Праз кананічнасьць і паняцьце аўтакефаліі гаварылася й пісалася ці мала, у тым ліку й на бачынах "Царкоўнага Пасланца". Нагадаем яшчэ-ж раз пацьверджаньне Томасу Усяленскае Канстантынопальскае Патрыярхіі ад 13 лістапада 1924 году, што "адлучэньне ад ... Кіяўскае Мітраполіі й залежных ад яе Праваслаўных Мітраполіяў Літвы й Польшчы" ды іхнае далучэньне да Расейскае Царквы "сталася не паводле кананічных правілаў".

А. Астапенка сьведама туманіць галовы чытачоў размаітым паняцьцем кананічнасьці. Гэты хітры ход зроблены з адной мэтай - абгрунтаваць маральнае й юрыдычнае права Расейскае Праваслаўнае Царквы духова ўладарыць у нашым краі. Ейную місыю РПЦ ажыцьцяўляе праз тэрытарыяльна-адміністрацыйнае прадстаўніцтва, ці філію - што называецца Беларускі Экзархат РПЦ. А. Астапенка, паводле ягонае лёгікі й мэты, называе гэтую філію - Беларуская Праваслаўная Царква, хоць, калі ўжо быць пасьлядоўным і датклівым у пытаньнях рэлігійна-адміністрацыйнага парадку, дык праваслаўны сьвет такое царквы ня ведае. Назоў БПЦ прыдуманы на нутраное ўжываньне, у сутнасьці-ж гэта фантом, такое царквы няма, хоць А. Астапенка гаворыць праз нейкую ейную самастойнасьць.

Болей таго, аўтар брашуры піша, што БПЦ (г.зн. Беларускі Экзархат РПЦ) "стаіць на шляху да аўтакефаліі", удакладняючы далей, што яна магчымая "толькі праз юрыдычна абгрунтаваны саборны акт".

Што-ж вынікае йз усяго вышэй напісанага? Аўтар даводзіць, што рэгіянальны адзьдзел РПЦ ёсьць запраўднай беларускай царквою, якая мае гістарычнае, маральнае й духовае права прадстаўляць наш народ у сьвеце (!?), ды, што далейшае разьвіцьцё праваслаўя ў Беларусі натуральным чынам узалежненае ад РПЦ. Гэтак пасьлядоўна аўтарам здымаецца пытаньне праз духовую акупацыю, праз змаганьне за самастойнасьць свае царквы, адводзіцца ўвага ад дазнаньняў іншых народаў, якія сьветчаць, што аўтакефалія асягаецца толькі праз наважны чын, пасьля якога праз гады прыходзіць прызнаньне.

Акт аўтакефаліі - гэта чын сьведамых людзей. Аўтакефалія адродзіцца ў Беларусі ў выніку гэткага чыну, але ня перараджэньня акупацыйнае ідэялягічнае інстытуцыі, за што агітуе аўтар брашуры. Сьведамыя гэтага чыну людзі ў Беларусі знойдуць дапамогу Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, што існуе ў замежжы.

Аўтар брашуры, ён-жа старшыня Беларускае Нацыянальнае Партыі, што адно нядаўна празь сябе заявіла, прадэманстраваў звычайную пазыцыю згодніцтва й прыслужыўся тым, каму не залежыць лёс Беларусі. Падобныя праявы згодніцтва, асабліва ў пытаньні аўтакефаліі, выявіліся выразна.

Зьвернем увагу на тое, што рэцэнзаваная брашура выдадзеная Сьв. Петра-Паўлаўскім Саборам у Менску, пры якім працуе Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў ды дзейнасьць якога шчыльна зьвязаная з працай выдавецкага адзьдзелу Беларускага Экзархату РПЦ. Уся выдавецкая прадукцыя гэтых установаў адкрыта, ці ўскосна скіраваная супраць узнаўленьня Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Краі.

Вельмі важна адрозьніваць аднадумцаў ад здраднікаў, не даваць ім хвальшаваць сьветлыя й вечныя ідэалы.

Будзьма-ж пільныя! В. Бражэвіч

## БОГ ВЕДАЕ НАЙЛЕПШ

Што трэба ўсё Айцец нам шле,
Ды колькі ўсьцяж з нас наракае,
Бо хоча сонца кожны дзень,
А зь неба й дождж парой ўпадае.

Ўспадобу нам, як сьмех чуцён
Й жадны, каб радасьць век трывала,
Ды сэрца стала-б камянём,
Каб часам болю не дазнала.

Выпрабаваньні нам дае
Айцец цярпеньнем і журбою,
Ды не караць ў Яго намер,
А ўмацаваць з жыцьцём да бою.

Бо набірае дрэва моц,
Усупраць буры як стрывае,
Мастак б'ючы ўзмах малатком
Красу з мармуру высякае.

Бог не дакучыць, як ня трэ
Ды ўпопуст болю не марнуе -
За ўсё, ад нас што адбярэ,
Ўзноў Ён шчодра абдаруе.

Й зьлічыць каб ласкі ўсе ды ўскрозь,
Што Бог усьцяж нам пасылае -
Прычыны крыўдзе ня было-б
Й жальба ўся стала-б дармавая.

Нас моцна любіць бо Айцец
І што ў карысьць нам Ён цікуе -
Пустой пацехай ня псуе,
Душа як болю патрабуе.

Таму, як што ня йдзе на спор,
Ці ў чым парою не шанцуе,
Дык нам няўцямна гэтак Бог
Наш дух няўдачамі гартуе.

Паводле верша Helen Steiner Rice
"God knows best" пераказ Б.Д.

## ДА НАС, ПРАЗ НАС І ... ЗА НАС ПІШУЦЬ

Сёлета выпалі ўгодкі дзьвёх важных у гісторыі Беларускага Народу падзеяў, а гэта - 80 год ад абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі ды - 50 ад узнаўленьня дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы за мяжою.

З нагоды 80-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў выслаў лідэрам беларускіх апазыцыйных партыяў, кіраўнікам адраджэнскіх арганізацыяў і рэдактарам дэмакратычнае прэсы на Бацькаўшчыне знарочныя прывітаньні.

Нажаль, мала хто зь іх быў даволі ветлівы, каб гэта адцеміць у друку, або даць узаемны адказ.

Прыемным выйняткам з гэтае амаль суцэльнае моўкнасьці была рэдакцыя часапісу "Кантакты і дыялогі", што ў нумары 3-4 (27-28) за сакавік-красавік г.г у адзьдзеле "з рэдакцыйнае пошты" зьмясьціла частку мітрапалітавага прывітаньня.

Гэтай паважанай рэдакцыі мы ўдзячныя яшчэ й за дасыланьне абменных нумароў часапісу, ды рэгулярнае адзначэньне важнейшых артыкулаў з "Царкоўнага Пасланца" у адзьдзеле "надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў сьвеце".

З набліжэньнем 50-х угодкаў узнаўленьня дзейнасьці Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Я.М. Мітрапаліт Ізяслаў, нават шырэй як на ўгодкі БНР, разаслаў прынагоднае прывітаньне, а Кансысторыя БАПЦ даслала яшчэ й дадатковыя паведамленьні.

Мы магчыма не атрымалі ўсіх вестак праз рэакцыю адрэсатаў на гэтае прывітаньне, але дасюль даведаліся, што яно было цалком перадрукаванае ў газэтах "Наша Ніва" й "Наша Слова", за што абедзьвюм рэдакцыям вялікая ад нас удзячнасьць.

Характэрна, аднак, ці тыпова для настаўленьня беларускае дэмакратычнае прэсы да справы ўзнаўленьня запраўды нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ў Беларусі, абыйшлася з прывітаньнем Я.М. Мітрапаліта Ізяслава ды паведамленьнем Кансысторыі БАПЦ газэта "Навіны" (былая "Свабода") зьмясьціўшы на 6-й бачыне 50-га н-ру за 5-га чырвеня г.г. у рубрыцы "Даты і лёсы" толькі зацемачку: "1948. На саборы беларускіх праваслаўных святароў ў заходне-германскім г. Канстанцы была створаная Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква на эміграцыі".

Затое праз арышт і суд за хуліганства быццам "япіскапа Беларускае праваслаўнае аўтакефальнае царквы Пётры Гушчы" нашыя дэмакратычныя газэты пісалі аднолькава з урадавай прэсай, г.зн. прамоўчваючы хвальш ягонага "япіскапства" й ашуканства назову, ды сутнасьці "Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае (Народнае) Царквы", якою ён у Беларусі кіруе.

Усю гэтую нягодную й нячыстага вываду справу Кансысторыя БАПЦ ўжо тройчы выясьняла, ды асьцерагала ад яе на бачынах "Царкоўнага Пасланца", які дасылаецца ў рэдакцыі колькі газэтаў.

Але, нават і бяз гэтых выясьненьняў і асьцярогаў, ці-ж не абавязак незалежнае дэмакратычнае прэсы даваць ейным чытачам выверанаю й магчыма поўную інфармацыю, а не пашыраць шкодную нацыянальным інтарэсам прапаганду?!

Вось тут і выяўляецца свомая нашаму адраджэнскаму руху сьляпая непрыязьнь да праваслаўя, што ня хоча бачыць розьніцы паміж ягоным маскоўскім зьвіхам, а нацыянальнай з аблічча й у сутнасьці Праваслаўнай Царквою, ды абыякавы да шкоды й долі апошняй.

З гэтае сьлепаты й ня ўміраюць у нас трызьні праз наварат Беларускага Народу ў вунію, ці ягонае рашчапленьне на сэкты, у той час як А. Лукашэнка, лепш разукмеючы справу, вядзе гэты народ на павадку маскоўскага праваслаўя ў няволю, ад якое толькі родная Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква магла-б яго духова збавіць.

Варочаючыся да П. Гушчы, што, як унівэрсальны інструмэнт, карысны маскоўскай царкве й сёньняшняй беларускай уладзе ў турме, ды на волі, цяпер ён вызвалены й працягвае ягоную шкодную запраўднай, г.зн. Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве, ды ня вельмі прасьледаваную дзейнасьць.

Гэтая дзейнасьць знайшла даволі камічны адгалос у адкрытым лісьце др-ра Барыса Рагулі да Пётры Гушчы, што з тае-ж сьляпое непрыязьні рэдактароў да праваслаўя зьявіўся на бачынах пары публікацыяў.

Аўтар ліста, нездаволены, відаць, "асягненьнямі" закалоту ў БАПЦ, да якога нямала сам спрычыніўся, на дзявятым дзясятку год жыцьця наважыў зрабіць стаўку на карту гушчавае псэўда-царквы ды гэтым дадаць яшчэ адзін лісток у вянец ягонае дзеячаўскае славы.

Дзівячыся на гэта збоку, зьмена вехі на дзявятым вератні жыцьця выклікае, аднак, пытаньне, ці аўтар ліста разважае цьвяроза, ці трызьніць?...

А цяпер пару водгукаў ад нашых чытачоў і прыхільнікаў на Бацькаўшчыне, для якіх вялікім выпрабаваньнем на "спакушэньне ад ліхога" была нядаўняя падзея, праз якую яны пішуць:

"... Аб справе адраджэньня на Радзіме БАПЦ даведаўся з газет, адразу зьвязаўся і пэўны час перапісваўся з ... сябрамі. Богу было заўгодна, каб я ... стаўся сведкам ... спраў стварэньня так званага беларускамоўнага прыходу (*у Менску - рэд.*). Тут я пазнаёміўся з ... ды іншымі людзьмі. Сустракаліся, абменьваліся думкамі, шмат людзей прыходзіла і ўходзіла, не мала было моладзі, якая жадала рабіць для ўзнікнення на Беларусі роднае Царквы. Нажаль не шмат з тых хто прыходзіў ведаў пра існаванне сапраўднае праваслаўнае роднае Царквы ў замежжы.

Гэты недахоп, як маглі спрабавалі справіць ... і я. Сталыя людзі да гэтага адносіліся засьцярожана, баязьліва, моладзь наадварот вельмі спрыяльна. Тады я і зразумеў, што надзею на прыход БАПЦ ў Беларусі трэба будзе ўскладаць на моладзь, бо мэнталітэт "савецкіх" інтэлігентаў ужо сфарміраваны і ён не здаровы.

Яшчэ адным пацьверджаньнем маіх думак была сустрэча "прыхажан" ствараемага прыходу з Філарэтам Вахрамеевым, які адразу ўзяў справу аб стварэньні прыхода пад свой пільны кантроль. С пачатку яму было цікава на што гэтыя людзі здольны, ці варта іх сьцеражыцца, але пабачыўшы на сустрэчы, што канкурэнцыі яму не будзе, страціў усялякую цікавасьць. Таму і прыход гэты хача і дазволен, але знікае.

Справа ў тым, што большасьць "прыхажан" аморфная маса: літаратары, вучоныя, настаўнікі і т.д., якія вітаюць толькі мову, а да самой Царквы не маюць ані якага дачыненьня. Яны моўчкі згаджаліся на ўсе Філарэтавы патрабаваньні ...

Пакуль-што нашая мэта ў распаўсюджаньні вестак пра БАПЦ, нажаль газеты рабіць гэта не вельмі жадаюць. ... спрабуем гуртаваць людзей, каб у добры час пачаць актыўную справу. Молімся за Вас і Вашую самаааданую працу. З вялікай павагай да Я.М. Уладыкі Ізяслава. Дай Божа, шмат год і посьпехаў у справах".

На гэтую самую тэму піша яшчэ адзін з нашых прыхільнікаў:

"... на пачатку бягучага года ўзьнікла ідэя пабудовы (*у Менску - рэд.*) царквы, у якой усё служэньне адбывалася б на матчынай мове. Мы ... спадзяваліся, што гэты прыход стане прыкладам для іншых. З цягам часу ён павінен быў стаць цэнтрам аднаўленьня сапраўды нацыянальнай царквы. На жаль, сёньня гэта ў мінулым.

## ЦАРКВОМАЎКА

*ІСУС. Фільм на відавай касэце выпрадукаваны Інтэрнэшэнэл Філмс, Інк. в падгукаванымі пабеларуску размовамі.*

Пачуўшы сябравую пахвалу вышэй названага фільму закарцела й самому падзівіцца на ўвабразаваньне Хрыстовага жыцьця на зямлі, а падзівіўшыся запякло падзяліцца ўражаньнямі праз пабачанае з чытачамі.

Папраўдзе кажучы, дык праз пабачанае, з аднаго боку ня дужа разьбіраючыся ў акторскім майстэрстве, а з другога разумеючы, што гэта не мастацкі, а хутчэй павучальны фільм, няма адвагі гаварыць, а вось праз пачутае нельга ўстрымацца, каб не прамовіць.

Ды не гаварыць, а галасіць хочацца праз абразу Богу, што ў нас робіцца пад высокім назовам перакладу на беларускую мову Сьвятога Пісьма й малітоўных, ды адпраўных тэкстаў, прыкладам якое якраз і ёсьць мова апісванага гэтта фільму.

Ня трэба бо глыбокіх філялягічных ведаў, а даволі змалку размаўляць на беларускай мове, каб адразу пачуць ідыятызм гутаркі дзейных у фільме асобаў, у тым ліку, ды найбольш тае, што ўвасабляе Божага Сына.

Гэты ідыятызм, перш за ўсё, б'е ў вушы нянаскім і грубастым вымаўленьнем актораў, якое адразу выкрывае, што яны карыстаюцца беларускай мовай мабыць адно тады, калі ім за гэта плацяць.

Разам з гэтым дакучаюць і "дабрадзействы наркомаўкі", паводле якое, хоць і не цалком, складзеныя гутаркі пэрсанажаў фільму.

Найгоршае мукі, хоць мала-веле чульліваму да харaства роднае мовы слухачу, задае, аднак, скалечаны на грэцкі лад, а прыйшлы праз царкоўна-славянскую мову ды бязглузда пераймaны нашымі перакладнікамі пабожных тэкстаў парадак словаў у сказе.

Здавалася-б ня трэба вялікае навукі, ані адумысловага напаміну, каб ведаць, што ў беларускай, як і ў шмат якіх іншых мовах, чарга словаў у сказах найчасьцей ужыванага абвестнага ладу гэткая: займеньнік+прыметнік+назоўнік+дзеяслоў - гэтага асноўнага ўмецтва, як хады, мы навучаемся на самым парозе нашага жыцьця.

А раз навучаныя заўсёды без-падказу мовім: "мой добры бацька косіць, мая любая маці жала, наш родны край рунеў" і пад.

Гэтая простая мудрасьць, нажаль, да цяму нашых перакладнікаў пабожных тэкстаў не даходзіць і яны адзін за адным калечаць нашую мову, на грэцкі лад стаўляючы назоўнік уперадзе займеньніка й прыметніка, а дзеяслоў абы-дзе.

Тым больш ужо яны не даюць сабе рады зь іншымі моўнымі правіламі ды выйняткамі зь іх.

Гэткім чынам узапар ствараюцца моўныя "пэрлы" на падабенства "Айцец Мой, Айца Майго Нябеснага, з ... бацькам іхным, брат твой мае, цешчу ягоную, ярмо маё добрае" й яшчэ, ды яшчэ іншыя.

Калі-б падобныя дзівосы зьяўляліся ў перакладах літаратурных твораў, іх адразу высьмяялі-б і адкінулі-б, а ў пабожнай літаратуры, дзе зь нястачы знаўцоў кожны перакладнік сам сабе судзьдзя й пахвальнік, усе гэныя недарэчнасьці лічацца, мабыць, за пазнакі ўрачыстага стылю, які нам хочацца чуць у Божым слове.

Гэты ўрачысты стыль адразу й увесь час адчуваецца ў перакладах Сьвятога Пісьма ды адпраўных тэкстаў на ўсе іншыя мовы, а ў нас ніхто й ніяк ня можа на яго ўзьбіцца, ды ня ведае як да гэтае справы падыйсьці.

Вось адсюль і вывялася ў нас у дадатак да недасканалае "тарашкевіцы" й забіўное "наркомаўкі", яшчэ й зусім недарэчная "царквомаўка".

Адной з пазнакаў ейнае недарэчнасьці ёсьць слова "Госпад", якім з боязі свайго роднага "Гаспадар", усе бяз выйнятку перакладнікі карыстаюцца, зьмяняючы яго, аднак, не паводле правілаў беларускае мовы, наўзор "дзед - дзеду, род - роду, завод - заводу", а царкоўна-славянскае, у выніку чаго з "Госпада" выводзіцца "Госпадзі", што, як "моладзь - моладзі" належыць да жаночага роду.

Нельга таксама не зьвярнуць яшчэ раз увагу на часта ўжо пераймaную ў нас грэцкага заводу бязглузьдзіцу "дабраславіць, дабраслаўлены, дабраслаўленьне".

Нашая мова ня любіць складаных словаў тыпу "дабраславіць", ды мае на ягонае значаньне адпаведнікі, як "хваліць, хвалаваць, прыяць, спагадаць, шчадрыць", якімі й трэба, залежна ад выпадку, яго заступаць.

Тымбольш ня трэба выдумляць іншых складанкавых дзівосаў, як гэта ці адзін зь перакладнікаў робіць.

Да гэтага перакладнікі няраз, ня шукаючы родных, устаўляць палянізмы й зусім польскія словы, як "анёлы" замест "ангялы", "Збавіцель" замест "Збавец", "збаўленьне" замест "збаўленьне" й шмат іншых.

Усё гэта йдзе зь іхнае незнаёмасьці з народнай гутаркай ды, горш яшчэ, з цалковае да яе няўвагі.

А ў ёй, успомніўшы, ці пашукаўшы, можна знайсьці словы й узоры да перакладу пабожных тэкстаў урачыстай мовай, якое нашыя душы жадаюць.

Гэтая мова можа не спадабацца тым, што навучаныя трасянкавае "літаратурнае мовы", але дзе-ж, як ня ў гутарцы з Богам, карыстацца ня злыднямі скручанай балбатнёю, а моўным багацьцем, якім Ён нас абдарыў.

Яшчэ трэба сказаць, што ўзорам для тэкстаў царкоўных адправаў у немалой меры былі псальмы й перакладнікам зь іх і трэба было-б пачынаць працу.

Маючы гэта наўвеце ў "Царкоўным Пасланцы" й друкуюцца вершаваныя спробы перакладу, ці пераказу псальмаў, прачытаць якія, а можа й перарабіць на іхны лад карысна было-б нямала каму з нашых перакладнікаў.

Тады можа й не здараліся-б прыкрасьці, як зь відавай ўстужкай "Ісус" й зь нямала якімі друкаванымі перакладамі, ды, замест затыкаць вушы, ці зачыняць кнігі, каб не пакутаваць ад скалечанае мовы, мы з насалодай слухалі-б, або чыталі-б Божае слова на годнай яго роднай мове.

Б. Данілюк

---

## ДА НАС, ПРАЗ НАС І ... ЗА НАС ПІШУЦЬ

(ПРАЦЯГ З 16-е БАЧ.)

Пастаўлены на чале прыходу *(сьвятар - рэд.)* Георгі Латушка ня робіць фактычна нічога. Цяпер зразумела, што гэтак было запланавана..: паставіць свайго чалавека, ні рабіць ніякай рэальнай справы і тым пахаваць ідэю.

Але на маю думку гэта нават і лепш: цяпер людзі бачаць хто ёсьць хто. Добрая справа заўсёды ідзе цяжка. А калі ворагі спалохаліся нават адной (!) беларускай царквы, то можна ўявіць наколькі рэальнай небясьпекай для іх зьяўляецца сама аўтакефалія. Адчуваюць, пэўна, як няўмольна набліжаецца час сьвітанку, які згоне прэч цемру чужыншчыны!

І іхні страх мяне толькі радуе!"

Да гэтых словаў мы хочам дадаць, што сьвітанкі ў гісторыі народаў прыходзяць з Божае ласкі адно тады, калі гэтыя народы заслугоўваюць на іх малітвамі, працай і змаганьнем.

Таму сьвітанку, што нам нядаўна быў пасланы зь неба, без настаўленьняў свае роднае Праваслаўнае Царквы мы, нажаль, не пайшлі ўсустрач, а завярнулі ў цемру.

З гэтае магільнае цемры мы й ня выйдзем пакуль не адбудуем сваю родную Беларускую, Аўтакефальную Праваслаўную Царкву ў Краі, ды зь Ёю, праз малітвы, працу й змаганьне здабудзем годнасьць на Божую ласку.

Дык узварухнемся-ж, Сястрыцы й Братове, на гэтую адбудову й будзе нам шчодрая за яе ўзнагарода!

## ПАЛЯВАНЬНЕ НА БЕЛАРУСКІЯ ДУШЫ

На запрашэньне прэзыдэнта А. Лукашэнка сёлета, ад 24-га да 27-га верасьня, Беларусь наведваў прэзыдэнтаў, як выявілася, даўні прыяцель Маскоўскі патрыярх Аляксей II.

Для прызваітасьці афіцыйнай мэтай патрыярхавага падарожжа ў наш край мела быць наведаньне падпарадкаваных сёньня Маскоўскаму патрыярхату Менскае, Полацкае й Віцябскае япархіяў.

Аднак запрашэньне чалавіком дзяржавы гэткага высокага царкоўнага кіраўніка, паказала ды выпучыла й так загадзя ведамы нецаркоўны, а палітычны характар і мэту ўжо трэйцяга ягонага заезду ў Беларусь.

Адзіным бо адгалосам з наведаньня беларускіх япархіяў быў успамін праз прыгарнаванае да гэтае нагоды узьняцьце ім у Сьв. Еўфрасіняўскім манастыры ў Полацку падробленага наўзор запраўднага, што прапаў забраны ў Расею, крыжа Сьв. Еўфрасіньні Полацкае.

Ды й у гэтай ўрачыстасьці йшло ня гэтак праз ушанаваньне незапраўднага крыжа, як праз паказ маскоўскае ласкі, якую беларусы быццам атрымалі за свае грошы падрабіўшы нацыянальную памятку.

Затое палітычная праграма патрыярхавага падарожжа ў Беларусь ды ягонага чэставання прэзыдэнтам выпала вельмі багата.

Ужо ў першы дзень ягонага побыту ў Беларусі Маскоўскі патрыярх сустрэўся з прэзыдэнтам А. Лукашэнкам, зь якім у яго суцэльная згода ў паглядах.

Праўду кажучы гэтая згода ня зусім і суцэльная, бо А. Лукашэнка імкнецца цаною беларускае дзяржаўнасьці купіць сабе трон у Крамлі й разьлічвае, што, як і ў Беларусі ён асягне гэтую мэту з дапамогай Расейскае Праваслаўнае Царквы, а патрыярх, ведама-ж, ня хоча выпусьціць Беларусі зь кіпцюроў, але бачыць беларускага прэзыдэнта "российским самодержцем", маючы больш родных яму кандыдатаў, наўгад ці жадае.

За гэтае часткавае адзінства ў паглядах, мэтах і дзеях, акрэсьленае словамі "асобыя заслугі ў разьвіцьці і ўмацаваньні сяброўскіх сувязей паміж народамі" прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь і ўзнагародзіў патрыярха ордэнам Францішка Скарыны.

А каб ня было зайздрасьці паміж адзначанымі А. Лукашэнка ўшчадрыў і ўзнагароджанага ўжо ордэнам Ф. Скарыны патрыярхавага экзарха ў Беларусі мітрапаліта Філарэта, за ягоны быццам "вялікі асабісты ўклад у духоўнае адраджэнне беларускага народа", яшчэ й ордэнам Айчыны III ступені.

Роўнае зь вяроўчынай повязяй да шыі вешанага ды нятоенае настаўленьне й дачыненьне абодвых узнагароджаных да запраўднае прыязьні паміж народамі, а таксама й да духовага адраджэньня Беларускага Народу паказвае, што прышпіленыя ім ордэны нішто іншае, як подкуп на далейшыя палітычныя паслугі.

Гатовасьць да гэткіх паслугаў патрыярх не замарудзіў пацьвердзіць, усьлед за ўзьняцьцем падробленага Сьв. Еўфрасіняўскага крыжа ўзнагародзіўшы А. Лукашэнка першым якім-колечы ў ягоным жыцьці ордэнам Крыжа Прэпадобнае (найгоднае - рэд.) Еўфрасіньні Полацкае I-е ступені, што быў устаноўлены Сынодам Беларускага Экзархату РПЦ, які ў выгадных яму выпадках называе сябе Беларускай Праваслаўнай Царквою.

Найвыразьнейшым выявам палітычнага хабору стала, аднак, разьвітаньне з патрыярхам, якога ажно ў Маскву праводзіў сам прэзыдэнт А. Лукашэнка, пры нагодзе выказваючы, што "адказнасьць за будучыню накладае на кіраўніцтва рэспублікі і царкву пэўныя абавязацельствы па духоўнаму адраджэньню народа. I мы абавязаны падтрымаць намаганні праваслаўя ў гэтым напрамку, бо рэлігія з'яўляецца для грамадзтва незаменным маральным апірышчам".

Прысутны пры разьвітаньні карэспандэнт дадаў яшчэ, што Аляксандар Лукашэнка асабліва падкрэсьліў, што лічыць царкву адзінай сілай, здольнай аб'яднаць брацкія славянскія народы Беларусі, Расіі і Украіны.

Урэшце ён дадаў яшчэ, што "дзяржава пакуль што ў даўгу ў царквы, і ўсё, што было ў яе адабрана ў папярэднія гады, мы пастунова вернем, у тым ліку і Сафійскі сабор у Полацку. Гэта будзе справядліва ў адносінах да ўсяго беларускага народа, бо спадчына праваслаўя і прызначана для развіцця і ўмацаваньня яго духоўнасьці".

Патрыярх-жа пры разьвітаніні з прыемнасьцяй пацьвердзіў мэту ягонага падарожжа ў Беларусь і дзейнасьці там РПЦ кажучы, што ён "цьвёрды прыхільнік умацаваньня саюза нашых дзяржаў і нашых аднаверных народаў".

Словаў і ордэнаў на ўмацаваньне таго саюзу й на прэзыдэнтавую надзею на пасад у Крамлі, аднак, замала й "аднаверны" з намі расейскі народ патрабуе, калі ня грошай, якіх з А. Лукашэнка ня ўзяць, дык харчоў, што ягоным дэкрэтам лёгка адабраць у і так нясытых беларускіх спажыўцоў.

Гэткім чынам і плывуць рэкамі гэтыя харчы зь Беларусі нятолькі платаю за нафту, але й шчодрымі падарункамі А. Лукашэнка Расейскай Праваслаўнай Царкве, што корміць імі нятолькі ейныя ўстановы, але й дастае іх даволі, каб "у многіх прыходах ... вырашыць харчовую праблему".

Беларускі-ж спажывец, тымчасам, палюе на прадукты першае неабходнасьці ды выстойвае за імі ў чэргах.

Нашыя нядобразычліўцы казалі й кажуць, ды нямала з нас самых верыць, што без Расеі Беларусь ня выжыве, ажно, бачыце, з прэзыдэнтам Лукашэнкам мы ўрэшт Амэрыку дагналі, бо побач зь ёю ратуем нашую вялікую суседку ад голаду.

Шкада толькі, што гэты ратунак мы, як давалі раней, даем цяпер, даваць мем безгаспадарнай суседцы яшчэ доўга, ды з падзякай, што нас ашчасьціла прымаючы.

Бо нашыя душы, нанізаныя на здабычныя нізкі маскоўскіх лаўцоў ў духоўніцкай адзежы ды з воўчым нутром, няздольныя разумець свой інтарэс, а навучаныя бачыць шчасьце ў слугаваньні чужой сіле.

Каб-жа з гэтага слугаваннага шчасьця мы не апрытомнелі, да нас раз за разам заяжджаюць наглядзнікі за мяйсцовымі паляўнічымі на беларускія душы.

Нажаль, у нас з гэтае прычыны цешыцца нават нямала г.зв. адраджэнцаў ды іхная прэса.

Затое ў нашых суседаў украінцаў маскоўскіх лаўцоў душаў сустракаюць і праводзяць дэманстрацыямі.

Ці не пара й нам вітаць іх плякатамі: "Аляксею едзь у Расею" ды й "Вахрамею едзь у Расею". М. Доўнар

## ФОНД АДБУДОВЫ БАПЦ НА БЕЛАРУСІ

У сучасных эканамічных умовах на Бацькаўшчыне дзейнасьць пачынальнікаў адбудовы там Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы патрабуе матэрыяльнае дапамогі з боку нашае эміграцыі.

З мэтай збору гэтае дапамогі Кансысторыя БАПЦ адчыніла адумысловы фонд, складаць ахвяры на які заклікае ўсіх беларусаў, што верныя ідэі паслухмянае Божым наказам і спрыяльнае, ды паможнае ў нацыянальных імкненьнях незалежнае адвонку роднае Праваслаўнае Царквы.

Чэкі, калі ласка, выпісваць на BAOC Consistory й слаць на адрыс: P.O. Box 5982, Somerset, N.J. 08875-5982, або плаціць вызначаным і пасьветчаным на гэта зьбіральнікам на мейсцах.

## У ПОЛЬСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ

У выніку несправядліва, а з мэтай, каб ня даць Беларусі доступу да мора, пасьля вайны праведзеных межаў частка беларускіх этнаграфічных і гістарычных земляў зь немалою колькасьцяй на іх беларускага праваслаўнага насельніцтва апынулася ў польскай дзяржаве й у абсягу дзейнасьці Польскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Доля гэтага насельніцтва й земляў, ня якіх яно жыве ня выходзіць цяпер і ніколі ня выйдзе з памяці праваслаўных беларусаў, іхнае запраўды нацыянальнае Праваслаўнае Царквы ды кожнага беларускага патрыёта.

Да болю праз страчаную частку нацыянальнага цела даходзіць яшчэ й напамін, што кананічнае існаваньне ПАПЦ абапертае на гістарычнай спадчыне Кіяўскае й Навагрдзкае (Літоўскае) мітраполіяў, якім права на гэткае існаваньне цяпер адмаўляецца.

З усіх вышэй пададзеных прычынаў апякунская над душамі дзейнасьць ПАПЦ і ейная палітычная накіраванасьць вельмі неабыякавыя для беларускага царкоўнага й нацыянальнага незалежніцкага руху.

Нажаль, як адна, гэтак і другая зь іх ідзе на шкоду захаваньня этнічных, ды нацыянальных асаблівасьцяў беларускага праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны, а праз гэта й на страту ўсяму Беларускаму Народу.

Некарысная беларускасьці дзейнасьць й няпрыхільная нашаму адраджэньню накіраванасьць ПАПЦ справа ня новая й выяўлялася нават тады, калі яе ачольваў (1970-1998) беларус - мітрапаліт Васіль Дарашкевіч.

Праўда, ў пару пасьлясталінскае адлігі, яшчэ япіскапам, ён быў выступіў у беларускім друку з патрыятычнай заявай, але пасьля гэтае заявы ягонае бунтарства, ці па сабе, ці пад польскім й маскоўскім націскам нятолькі скончылася, але й абярнулася ў паслухмянае выканальніцтва загадаў, што ўзноў павялі ПАПЦ шляхам руса-палянізацыі беларускага насельніцтва да ейнае прышлае загібелі ў каталіцкім польскім моры.

Пасьля сьмерці сёлета, 22-га лютага, мітрапаліта Васіля на пасадзе яго заступіў дасюлешні архіяпіскап беластоцкі й гданскі Сава.

Хоць Божыя дзівы бываюць і ў нашыя дні, але зьмены ў дачыненьні ПАПЦ да беларускае справы цяжка спадзявацца й пры новым першагерарху.

Не даюць на гэта шмат надзеі й усьвячэньні новых япіскапаў з брацыі супрасьльскага манастыра, што адбыліся сёлета ў травені.

Усьвячаныя былі: архімандрыт Мірон (Хадакоўскі) на япіскапа гайнаўскага, архімандрыт Якуб (Касьцючук) на япіскапа супрасьлскага й архімандрыт Грыгор (Харкевіч) на япіскапа бельскага.

Япіскап Мірон заступіў мітрапаліта на становішчы галоўнага праваслаўнага капэляна польскага войска.

Гэты, нярадасны для нас стан справаў пагоршаў яшчэ больш з прычыны сёлятняе сьмерці выдатнага імкненьніка, хоць і не да беларускае аўтакефаліі, але, усё-ж, да здабыцьця мейсца на беларускія пазнакі ў царкоўным жыцьці Беласточчыны - Міколы Гайдука (1933-1998).

Імкненьне й плодная праца гэтага таленавітага беларускага пісьменьніка, гісторыка, журналіста й настаўніка, каб унясьці ў царкоўнае жыцьцё ў пасьляваеннай Польшчы родныя пазнакі, якраз і зрабілі ягоную асобу унікальнай у нашым адраджэнскім руху, а дзеля таго й наўгад, ці заменнай.

**ЧЫТАЙЦЕ Й ПАШЫРАЙЦЕ "ЦАРКОЎНАГА ПАСЛАНЦА", АДЗІНЫ ЧАСАПІС ПРЫСЬВЕЧАНЫ ІДЭІ БЕЛАРУСКАЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**

## УШАНАВАНЬНЕ 78-х УГОДКАЎ СЛУЦКАГА ЗМАГАНЬНЯ Ў БРУКЛІНЕ

Ушанаваньне 78-х угодкаў Слуцкага Змаганьня ў Брукліне было зладжанае Парахвіяльнай Радай Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага ў нядзелю, 22-га лістапада г.г.

Сьв. Літургію й паніхіду за супакой душаў забітых на палёх бою й у турмах, ды на засланьні замучаных змагароў за волю Бацькаўшчыны й аўтакефалію Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы адправіў у гэты дзень а. архімандрыт Аляксей.

Пасьля адправаў у парахвіяльнай залі сястрыцтва прыгатавала каву зь печывам, частуючыся якімі прысутныя мелі нагоду пагутарыць між сабою.

Афіцыйная частка ўрачыстасьці пачалася прапяяньнем усімі малітвы "Войча наш" ды заклікам Божага прыяньня сходу, якое змовіў а. архімандрыт Аляксей.

Усьлед хвілінай цішыні й прапяяньнем жальнага маршу "Сьпеце, ўсе тыя, што праўды па сьвеце шукалі" была аддадзеная чэсьць спачылым змагарам за незалежнасьць Бацькаўшчыны.

Пасьля гэтага кароткае прывітаньне ад адраджэнскага актыву пераказаў прыбылы зь Беларусі госьць.

Урэшце слова праз Слуцкае змаганьне ў 1920-м годзе цікава й даступна сказаў сп. Андрэй Падлескі.

У канцэртнай частцы ўрачыстасьці выступілі ўлюбаваныя беларускай публікай артысты: Валянтына, Алесь і Вольга Казакі, што прапяялі некалькі беларускіх народных песьняў, зьбіраючы за гэта шчодрыя воплескі.

Асобнай часткай канцэрту стаў выступ маладое кампазытаркі й пяюньні Вольгі Казак, што ўсьлед прапяяла дзьве на собскія словы складзеныя беларускія й адну ангельскую песьню, выклікаючы агульнае захапленьне.

Прыемнай неспадзеўкай быў яшчэ выступ сп. А. Балотніка, які памайтэрску засьпяваў песьню "Ня сумуй матуля" на словы Ул. Пяцюкевіча, муз. Зьм. Даналёва.

Заклікам а. архімандрыта Аляксея Божага прыяньня ўдзельнікам ды ўсімі разам прапяным нацыянальным гімнам урачыстасьць скончылася.

Прыбытак зь яе быў перададзены на выданьне касэты зь беларускімі песьнямі ў выкананьні сям'і Казакоў.

Дапамажэце, не адкладаючы, гэтаму выданьню й Вы!



**ПАЧАТАК СЬВ. ЛІТУРГІІ Ў КАТЭДРАЛЬНЫМ САБОРЫ СЬВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА КОЖНАЕ НЯДЗЕЛІ А 10-Й Г. РАНІЦЫ.**

**СЬВЯТЫ Ў ТЫДНІ, КАЛІ НЕ ЗАКАЗАНА ЙНАКШ, УШАНОЎВАЮЦЦА Ў НАЙБЛІЖЭЙШЫЯ НЯДЗЕЛІ.**

**ПЕРАД ПАЧАТКАМ СЬВ. ЛІТУРГІІ МОЖНА ПАЙСЬЦІ ДА СПОВЕДЗІ, АБО ПАДАЦЬ УСПОМНЫЯ СЬПІСКІ ЗА СУПАКОЙ ПАМЕРЛЫХ,ЦІ ЗДАРОЎЕ ЖЫВЫХ.**

**АДРЫС:**
**401 ATLANTIC AVE., BROOKLYN, N.Y. 11217-1702**
**TEL.: (1 718) 875-0595, TEL./FAX: (1 732) 873-8026**

# ПАДЗЯКА Й ЗАКЛІК

Вітаем Вас, нашыя Дарагія Дабрадзеі й Чытачы, зь вялікім сьвятам Хрыстовага Нараджэньня ды ўсім чыста жадаем Божага прыяньня й апекі ў новым, 1999-м, годзе, як у асабовым, гэтак і ў сямейным жыцьці, ды ў царкоўных і нацыянальных справах.

Моцна перапрашаем, што пасьля вялікоднага нумару "Царкоўнага Пасланца" наступны мы надрукавалі й дасылаем Вам адно цяпер, але сталася гэта не зь нядбайнасьці, а праз нечаканую апэрацыю сэрца рэдактара й даволі доўгі час, што яму спатрэбіўся, каб ад гэтага цяжкога перажываньня ачуняць.

Нажаль, ня так, як у камэрцыйных выдавецтвах, у нашым ня было работніка, каб адразу перайняць усю рэдакцыйную й адміністрацыйную працу й складаньне часапісу зацягнулася аж да гэтае пары.

Навучаныя прыкрым дазнаньнем мы будзем старацца перабудаваць рэдакцыйны склад так, каб падобнае, або іншае няспрыяльнае здарэньне не застала нас зьнячэўку.

Разам з гэтым, як і раней, будзем імкнуцца рабіць зьмест часапісу цікавым для чытачоў і паможным, ды неабходным у змаганьні супраць чужынскае царкоўнае акупацыі за ўзнаўленьне на Бацькаўшчыне роднае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Ведама-ж, бяз Вашае дапамогі, як заўвагамі аб зьмесьце часапісу ды пісьмовым удзелам у складаньні яго, гэтак і магчыма шчодрымі ахвярамі на выдавецкі фонд, мы самыя шмат не асягнем.

Як не дарма мы дасюль верылі й далей спадзяемся, што, усьведамляючы немагчымасьць зайснаваньня незалежнае беларускае дзяржавы бяз узнаўленьня незалежнае адвонку роднае Праваслаўнае Царквы, Вы будзеце падтрымоўваць Вашымі ахвярамі ня толькі палітычнае змаганьне за нашую дзяржаўнасьць, але й царкоўную дзейнасьць за аўтакефалію, часткаю якое й адзіным ейным голасам ёсьць "Царкоўны Пасланец".

За прыклад зразуменьня гэтае патрэбы й ахвярнасьці на яе няхай будуць дабрадзеі, дзякуючы шчодрасьці якіх гэтым разам "Царкоўны Пасланец" выходзіць у сьвет, а прозьвішчы якіх падаем ніжэй:

Бязыменна - 100 д., Бязыменна - 20 д., а. М. і м. В. Бурнос - 50 д., Васілеўскі Ю. - 25 д., Р. Галяк - 100 д., М. Грэбень - 80 д., Б. Данілюк - 50 д., Кавальчук І. - 5 д., Касьцюк М. - 15 д., а. В. Кендыш - 50 д., А. Лысюк - 20 д., Манастыр 4-х Явангялістаў - 25 д., Парахвія Сьв. Пётры й Паўла ў Адэляйдзе - 50 д., Сагановіч М. - 15 д., Сенька М. - 10 д., др. М. Смаршчок - 30 д., Тальянскі А. - 11 д., Ханяўка М. - 40 д., Цяліца Ул. - 20 д., О. Яськевіч - 50 д..

Мы шчыра ўдзячныя усім гэтым нашым дабрадзеям і ўпрашаем Народжанага ў Бэтлеэме з Найчыстае Дзеўны нашага Збаўцы Ісуса Хрыста, каб ўзварушыў да ахвяры на дагодную Яму справу сэрцы тых, што дарыць на яе дасюль шкадавалі.

Тады мы нятолькі "Царкоўнага Пасланца" выдаваць будзем, але пастараемся друкаваць і іншую, так патрэбную рэлігійную літаратуру ў роднай мове.

Гэтая-ж рэлігійная літаратура, разам з часапісам, дайшоўшы на Бацькаўшчыну збудзіць нашых суродзічаў із зманных павераў ды пакажа ім запраўдны шлях да збаўленьня праз Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

Няхай-жа так станецца!

Рэдакцыйная Калегія "Царкоўнага Пасланца"

BELARUSIAN AUTOCEPHALOUS
ORTHODOX CHURCH
ST. CYRIL'S OF TURAU CATHEDRAL
401 Atlantic Ave., Brooklyn, N.Y. 11217-1702
CHURCH MESSENGER
Vol. 26, No. 2, Christmas 1998
ISSN 1085-973x

ADDRESS CORRECTION REQUESTED

RETURN ADDRESS:
P.O. BOX 5982
SOMERSET, N.J. 08875-5982

NONPROFIT ORG.
U.S. POSTAGE
PAID
SOMERSET, N.J.
PERMIT NO. 44